# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (767) БЕЛАСТОК 8 ЛІСТАПАДА 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## ПАСТАНОВЫ КАСТРЫЧНІЦКАГА ПЛЕНУМА ГПБГКТ

1. На працягу 3-гадовай працы прынамсі адно пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ павінна быць прысвечана справам культурнай дзейнасці.

2. У планаванні культурнай працы і ў выкананні гэтых планаў цесна супрацоўнічаць з аддзеламі культуры, ВДК і ПДК, ЗМВ, прафсаюзамі, ТППР, ПУПіК «Рух» і іншымі грамадскімі, культурнымі і сельскагаспадарчымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у сваім асяроддзі.

3. Прыкласці максімум намаганняў да ўсебаковай арганізацыі і метадычнага забеспячэння — пры дапамозе ПДК, культурна-асветнай парадні і іншых арганізатараў — конкурсаў «Беларуская песня 71» і на найлепшы тэатральны і вакальны калектыў, абмяркоўваць гэтыя конкурсы як адну з важнейшых форм развіцця аматарскага руху ў гуртках.

4. Праўленні аддзелаў БГКТ на ўласных пленарных пасяджэннях з удзелам прадстаўнікоў аддзелаў культуры, ПДК, культурна-асветнай парадні і супрацоўнічаючых арганізацый да 10 лістапада 1970 г. зробяць ацэнку развіцця аматарскага руху на сваёй тэрыторыі і супольна акрэсляць у гэтым напрамку падрабязныя заданні.

5. Супольна з КОСБ і секцыяй беларускага школьніцтва АМЦ шырэй разгарнуць конкурсы, а таксама аматарскія школьныя і драматычныя калектывы ў школах з беларускай мовай навучання, асабліва калектывы малых форм: тэатраў паэзіі, дэкламатарскіх калектываў і г.д.

6. Кіраўніцтва ГП БГКТ супольна з аддзеламі культуры ПВРН і ВДК падрыхтуе падрабязную ацэнку кадравай сітуацыі ў аматарскім мастацкім руху, зверне асаблівую ўвагу на спосабы падрыхтоўкі інструктараў.

7. Галоўнае праўленне і аддзелы БГКТ павінны звяртаць больш увагі на падборку адпаведнага рэпертуару, на яго мастацкі бок і выхаваўчы характар, а літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» пры ГП будзе імкнуцца забяспечыць калектывы адпаведнымі сцэнічнымі творамі.

8. Усе звенні БГКТ будуць выконваць на сваёй тэрыторыі дырэктывы культурна-асветнага года 1970/71.

Працяг на стар. 4



Вестыбюль школы.

*Карэспандэнцыя з Мінска*

## ВЯСКОВАЯ СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА

*На прыкладзе Савецкай Беларусі асабліва ярка відаць выдатныя вынікі ажыццяўлення ленінскай праграмы культурнай рэвалюцыі. Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларусь была адной з адсталых акраін царскай Расіі, непісьменнасць насельніцтва складала звыш 80 працэнтаў.*

*Сярод першых дэкрэтаў Савецкай улады былі дэкрэты аб народнай адукацыі, ліквідацыі непісьменнасці. У 1926 г. урадам рэспублікі была прынята пастанова аб увядзенні ў Беларусі ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучання. Адна з найважнейшых праблем культурнага будаўніцтва — ліквідацыя непісьменнасці — была неўзабаве вырашана.*

*Зараз у рэспубліцы паспяхова ажыццяўляецца задача ўсеагульнай сярэдняй адукацыі. У 1969 г. усімі відамі абучэння ў БССР было ахоплена 2,8 млн. дзяцей і дарослых, у народнай гаспадарцы было занята 500 тысяч асоб з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.*

У Беларусі ёсць нямала гарадоў і вёсак савецкай улады. Адна з такіх вёвёсак, якія ўзніклі за гады Сасак раскінулася на беразе Дняпра ў Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці ў 1924 г. На былых панскіх землях сяляне-беднякі пачалі будаваць новую вёску. Вёсцы далі назву Ільіч.

Людзі ганарацца сваёй вёскай: ясныя, пад чарапічнымі дахамі хаты патанаюць вясной і летам у зелені садоў і сквераў.

Адным з цэнтраў вёскі з'яўляецца сярэдняя школа. Яе трохпавярховы будынак з барэльефам Уладзіміра Ільіча Леніна на фасадзе відаць здалёк.

Кожны раз, наведваючы школу, здзіўляешся нястомнымі пошукамі яе калектыва. Заўсёды вас сустракае тут нешта новае. У гэты дзень, апрача нас, у школу прыехалі настаўнікі з суседніх школ, каб падзяліцца вопытам. У школе выхоўвае ўсё: адразу ж у вестыбюле школы прыцягвае ўвагу скульптура Валодзі Ульянава з кнігай у руках. Ля яе падножжа — зялёны дыван з дэкаратыўнай травы. Справа — жывы куток беларускай прыроды: розныя віды дрэваў, чучалы жывёлін

(Працяг на стар. 3)



У народным музеі У. І. Леніна.

### «ЧАЛАВЕК — СВЕТ — ПАЛІТЫКА»

*І вось трэцяя дэкада грамадска-палітычнай кніжкі «Чалавек—свет—палітыка». Не ведаем яшчэ вынікаў 70-га года, але ў двух папярэдніх гадах Бельскі павет займаў І месца ў ваяводстве па колькасці членаў клуба кніжкі «Чалавек—свет—палітыка».*

Ідучы следам спамянутай кніжкі, прадстаўляем яе ролю сярод бельскіх чытачоў. Прадстаўляем саміх чытачоў і тых, якія кніжку распаўсюджваюць.

Гісторыя пачынаецца ў кнігарні № 56 у Бельску сярод невялікага штаба яе працаўнікоў — кіраўніка Лідзіі Пасынюк, Дануты Сцепанюк і Анны Пячынскай. Ніхто ў Бельску не пярэчыць, што чуе і ведае пра кніжку «Чалавек—свет—палітыка» найперш ад кнігароў.

У кнігарні я знаходжу заказы, а таксама прозвішчы людзей, якія штораз часцей звяртаюцца да гэтай нялёгкай, але неабходнай ў жыцці кніжкі. Спіскі імён моладзі з былога педагагічнага ліцэя і існуючай цяпер на яго месцы прафесіянальнай школы ў Бельску радавалі не толькі Лідзію Пасынюк. Доўгія спіскі маладых людзей з гэтых школ радуюць кожнага. Ёсць заказы на 70-ты год па 6—7 кніжак аднаразова. Бачу прозвішчы Яна Сальнікава, Яўгеніі Гулько, Ніны Самусевіч, Аляксандра Шашко, Францішка Кандрацюка, Міраслава Мітраша. Агульныя за-




казы складалі 123 экземпляры, 127 экз., 42 экз., 38 экз.

Вось малое параўнанне: 156 новых членаў клуба кніжкі «Чалавек—свет—палітыка» за 1969 год у Бельскім павеце, калі II-ое месца — Галдапскі павет — мела іх 118, а III-ае — Граеўскі — толькі 63 асобы.

### ПРАПАГАНДА ЎСІМІ СРОДКАМІ

Сярод 27 кніжных кальпартэраў — памочнікаў кнігароў на першым месцы ў гісторыі бельскага чытальніцтва грамадска-палітычнай кніжкі запісваю імя Ольгі Такажэвіч. Пані Ольга Такажэвіч была настаўнікам польскай мовы ў педагагічным ліцэі, потым, калі арганізавалася засаднічая школа, вучыла і тут гэтаму прадмету. Вяла пры тым школьную бібліятэку. Зараз яна на заслужанай пенсіі.

Калі пытаю Ольгу Такажэвіч, якім спосабам вырасла ў школе зацікаўленне кніжкай «Чалавек—свет—палітыка», яна адказвае, што вырашыла паслядоўнасць прапаганды кніжкі. Упартая, неадступная праца з моладдзю і з... кніжкай. «Як што рабіць, то трэба з пасіяй, перакананым трэба быць у мэтазгоднасці сваіх дзеянняў». Пасія дзеяння існавала ў школе, ішла з усіх бакоў: бібліятэкі, ад настаўнікаў гуманістычных прадметаў, праз пастаянныя выстаўкі грамадска-палітычнай кніжкі на вялікім школьным калідоры, праз фільмовыя праекцыі, праз конкурсы палітычных ведаў, праз чытанне цікавых фрагментаў на ўроках,

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ТРАГІЧНАЯ СМЕРЦЬ З. ВОЛЬНЯКА

Старшыня Рады Дзяржавы, маршал Польшчы Мар'ян Спыхальскі скараціў свой афіцыяльны візіт у Пакістане з прычыны трагічнай смерці намесніка міністра замежных спраў ПНР Зыгфрыда Вольняка. Віцэ-міністр Вольняк загінуў у часе ўрачыстасці прывітання старшыні Рады Дзяржавы ў Карачы, калі грузавы аўтамабіль уехаў на шпалер вітаючых. Загінула некалькі грамадзян Пакістана, а паранены — пасол Польшчы ў Пакістане Алойзы Бартошак, генеральны консул ПНР у Пакістане Уладзіслаў Дуда і некалькі пакістанцаў. Шафёра аўтамабіля затрымала паліцыя.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ СКЮ

У суботу мінулага тыдня закончылася ў Белградзе першая канферэнцыя Саюза камуністаў Югаславіі. Канферэнцыя згодна з пастановамі IX з'езда СКЮ з'яўляецца найвышэйшым органам партыі ў міжз'ездным перыядзе.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі рэзалюцыі «Аб актуальнай палітычнай сітуацыі і задачах СКЮ» і «Аб развіцці сацыялістычных суадносін у сельскай гаспадарцы і задачах СКЮ».

Канферэнцыя аднагалосна зацвердзіла праект утварэння ў Югаславіі Прэзідэнцкага Савета, у якім кожная з 6-ці саюзных рэспублік будзе мець аднолькавы лік прадстаўнікоў.

Канферэнцыя прыняла таксама пастанову, паводле якой інвестыцыйным фондам будуць распараджацца ўлады паасобных рэспублік, а не як дагэтуль саюзны ўрад.

### НОВЫ ЎРАД ЧЫЛІ

Новы прэзідэнт Чылі, Сальвадорэ Альендэ ў мінулым тыдні паведаміў аб стварэнні 15-асабовага новага ўрада.

Тры новыя міністры — гэта камуністы. У склад кабінета ўвайшлі 4 прадстаўнікі сацыялістаў, тры радыкалы, а астатнія члены кабінета — гэта прадстаўнікі іншых палітычных партый, якія дзейнічаюць ў Чылі.

### ЗАЯВА А. ГРАМЫКІ

Міністр замежных спраў СССР А. Грамыка нядаўна прабываў з візітам у Лондане. У Лондане Грамыка зрабіў наступную заяву:

«Карыстаюся выпадкам, каб заявіць, што Савецкі Саюз паслядоўна праводзіць курс на развіццё савецка-англійскіх адносін, зыходзячы з пераканання, што развіццё і паляпшэнне адносін паміж нашымі краінамі адпавядае інтарэсам народаў абедзвюх краін і з'яўляецца немалаважным фактарам у аздараўленні сітуацыі ў Еўропе і ў свеце цэлым. А праблем, над якімі Савецкаму Саюзу, Англіі і іншым зацікаўленым дзяржавам неабходна працаваць, каб прыйсці да згоды, ёсць нямала, у першую чаргу праблем, якія датычаць еўрапейскай бяспекі». (ак)



## БССР

### ПЛАН ЗА ТРЭЦІ КВАРТАЛ

Работнікі прамысловасці Беларускай ССР, спаборнічаючы за дастойную сустрэчу XXIV з'езда КПСС і датэрміновае выкананне пяцігадовага плана, перавыканалі план 9 месяцаў і трэцяга квартала 1970 г. па аб'ёму рэалізацыі прадукцыі і вытворчасці большасці важнейшых відаў вырабаў. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 12 працэнтаў. Выпуск прадукцыі асобных галін прамысловасці павялічыўся: электраэнергетыка — на 13 працэнтаў, паліўная прамысловасць — на 19 прац., хімічная і нафтахімічная прамысловасць — на 22 прац., машынабудаванне і металаапрацоўка — на 14 прац.

Усе вобласці і горад Мінск перавыканалі 9-цімесячны план як па аб'ёму рэалізацыі, так і па вытворчасці большасці важнейшых відаў прамысловай прадукцыі. Вытворчасць асноўных відаў прамысловай прадукцыі ў цэлым па рэспубліцы характарызуецца наступнымі данымі: нафта — 3,1 мільёнаў тон, станкі металарэзныя — 20 тысяч штук, аўтамабілі грузавыя — 22,3 тысяч штук, трактары — 60 тысяч штук, папера — 75,4 тысяч тон, цэмент — 1.441 тысяч тон, гадзіннікі — 1,8 мільёнаў, тэлевізары — 48,3 тысяч штук, халадзільнікі — 15,1 тысяча штук, матацыклы — — 1,1 тысяча штук, матацыклы — 114 тысяч штук.

У народную гаспадарку рэспублікі за 9 месяцаў гэтага года было ўкаранёна больш як 63 тысячы вынаходніцтваў і рацыяналізатарскіх прапаноў, эканомія ад іх укаранення складзе каля 50 мільёнаў рублёў у разліку на год.

Прадукцыйнасць працы прамысловасці ўзрасла ў параўнанні з 9 месяцамі мінулага года на 7,9 працэнта. За кошт павышэння прадукцыйнасці працы атрымана 71 працэнт усяго прыросту прадукцыі.

### МІНУЛАЕ БРЭСТА

Другі год на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці-героя вучоныя вядуць раскопкі старажытнага Бярэсця. На месцы гарадзішча адкапана 5 драўляных зрубаў, вызначылася вуліца. Адзін зруб захаваўся амаль поўнасцю — 12 вянцоў, чаго раней ніколі не сустракалася. Таксама знойдзена вельмі многа бытавых рэчаў, сельскагаспадарчых прылад, рэшткі зброі і даспехаў воінаў, жаночых упрыгожанняў. Каштоўнасць мае грэбень з выразанай на ім азбукай — відаць, нейкі старажытны навучальны дапаможнік, які на тэрыторыі Беларусі ў раскопках славянскага перыяду выяўлен упершыню. Знойдзеныя бытавыя рэчы, розныя прылады адносяцца да XI—XIII стагоддзяў. Раскопкі яшчэ не закончаны.

### БАРАНАВІЦКАЯ ФАБРЫКА...

...мастацкіх вырабаў выпускае дзесяткі відаў сувенірных вырабаў. Яе прадукцыя дэманстравалася ў Манрэалі, Японіі, Фінляндыі. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца ажурныя жаночыя шалі, рукавіцы мастацкай вязкі, жаночыя берэты, дзіцячыя шапачкі і многае іншае. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### СПАБОРНІЦТВА

26 кастрычніка ў Варшаве адбылося падсумаванне спаборніцтва маладых майстроў тэхнікі за 1969 год. Пераможцаў спаборніцтва прыняў у сябе прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. Тав. Юзэф Цыранкевіч павіншаваў пераможцаў з дасягнутымі вынікамі, дадаючы адначасова, што дасягненні іх з'яўляюцца добрым пасведчаннем дасягненняў усяго рацыяналізатарскага руху. Прэм'ер-міністр падкрэсліў таксама вялікае значэнне атмасферы крытыцызму і самастойных пошукаў, якую стварае рух рацыяналізатараў. Творчы крытыцызм вельмі патрэбны нашаму грамадству ў яго імкненнях да хутчэйшага гаспадарчага развіцця, без гэтага немагчыма перамагчы перашкоды, якія стаяць на нашай дарозе да навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У спаборніцтве маладых майстроў тэхнікі прыняло ўдзел 20085 маладых рабочых, тэхнікаў і інжынераў з амаль 1600 прадпрыемстваў. Моладзь перадала звыш 20 тысяч рознага роду прапаноў, прымяненне якіх павінна прынесці ашчаднасці на суму каля 570 мільёнаў злотых.

### МАШЫНАБУДАЎНІЦТВА

На працягу апошніх трох кварталаў машынабудаўнічая прамысловасць перавыканала план забеспячэння рынка сваімі прадуктамі. За гэты час гандаль атрымаў тавары на агульную суму каля 23 мільярдаў злотых. План цэлага года, які прадбачвае пастаўку тавараў машынабудаўнічай прамысловасці на агульную суму 30,2 мільярда злотых, будзе перавыкананы на 100 мільёнаў злотых.

### ВЫНІКІ

На прадпрыемстве тэхнічнага абсталявання «Згода» ў Свентахлавіцах і радыёвым прадпрыемстве «Эльтра» ў Быдгашчы адбылася ацэнка вынікаў іх працы ў апошнім квартале. Абодва прадпрыемствы належаць да 10 выбраных прадпрыемстваў краіны, у якіх эксперыментальна ўведзена новая сістэма эканамічных стымулаў. Ацэнка паказала, што абодва прадпрыемствы значна перавыканалі свае заданні. Выкананы план экспарту да капіталістычных краін, значна ўзрасла дынаміка прадукцыі, што наступіла амаль выключна дзякуючы ўзросту прадукцыйнасці працы. Новая сістэма мабілізуе да лепшай працы і з'яўляецца важным інструментам для паляпшэння гаспадарання.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

У Польшчы пабывала дэлегацыя Дзяржаўнага камітэта навукі і тэхнікі СССР на чале з намеснікам старшыні камітэта Уладзімірам Кірыліным. Дэлегацыя правяла размовы адносна тэхнічнага і навуковага супрацоўніцтва паміж Польшчай і СССР у гадах 1971—1975. Падпісаны дагавор прадбачвае, між іншым, супольнае планаванне навукова-тэхнічнага прагрэсу, супрацоўніцтва ў арганізаванні і планаванні доследаў — асабліва ў галіне прымянення матэматычных машын пры кіраванні гаспадаркай. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### КІРАЎНІКІ МІНІСТЭРСТВА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У мінулым тыдні на Беласточчыне пабывалі міністр сельскай гаспадаркі праф. Ю. Акунеўскі і віцэ-міністр М. Салецкі. Госці сустракаліся з членамі прэзідыума ваяводскай рады. На сустрэчы абмяркоўваліся актуальныя справы нашай сельскай гаспадаркі.

Міністр і віцэ-міністр сельскай гаспадаркі ўдзельнічалі таксама ў працы пасяджэння экзекутывы ВК ПАРП, на якім абмяркоўвалася праграма арганізацыі кааперацыйных раёнаў у дзяржаўных сельскіх гаспадарках. На гэтым пасяджэнні быў таксама намеснік кіраўніка аддзела сельскай гаспадаркі ЦК ПАРП Р. Стахурка.

На пасяджэнні экзекутывы міністру Ю. Акунеўскаму была ўручана ганаровая адзнака «Заслужаны для Беласточчыны».

### СУПОЛЬНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

На днях адбылося супольнае пасяджэнне камісіі культуры пры Ваяводскай камісіі прафсаюзаў і камісіі культуры пры ВРН. Тэмай пасяджэння была культурна-асветная дзейнасць прафсаюзаў у рабочым асяроддзі. На пасяджэнні былі прадстаўлены прапановы экзекутывы ВК партыі ў справе дзейнасці прафсаюзаў. Галоўны напрамак дзейнасці — супольныя праграмы культурна-асветнай дзейнасці для ўсіх фабрычных арганізацый на чале з прафсаюзнай радай. Выхаваўчай ідэяй усіх гэтых праграм павінна быць фарміраванне новага чалавека, выхоўванне ў ім адпаведных адносін да працы і грамадскай уласнасці, пашырэнне сацыялістычных прынцыпаў у міжлюдскіх адносінах.

### ЧАРГОВАЯ СЕСІЯ МРН

Адбылася чарговая, IX сесія гарадской рады нарадовай, на якой падсумоўвалася выкананне пяцігадовага плана. Пяцігодка канчаецца разам з 1970 годам. Лічба жыхароў нашага горада дасягнула ўжо 170 тыс. Перыяд гэтай пяцігодкі характарызаваўся далейшым развіццём усіх галін гаспадаркі. Аддадзены ў карыстанне новыя прамысловыя аб'екты (белая ткальня. выканчальня і фарбярня ў «Фастах», новыя аддзелы ў ФПіУ, гута шкла, склад — халадзільнік, фабрыка «Спомаш»), каля сотні новых крам, новыя глыбінныя калодзежы на новай крыніцы пітной вады для забеспячэння горада. Шмат увагі было прысвечана жыллёваму будаўніцтву.

### ПРАДПРЫЕМСТВЫ ДАКЛАДВАЮЦЬ

Пачалі ўжо надыходзіць рапарты з прамысловых прадпрыемстваў аб выкананні гадавых заданняў. Адны мі з першых далажылі аб выкананні пяцігадовага і гадовага плана Падляшскае прадпрыемства спажыўцаў — спулдзельня працы ў Беластоку, Элцкае і Ломжынскае будаўнічыя прадпрыемствы. Дзякуючы працы гэтых прадпрыемстваў беластаччане атрымаюць яшчэ ў гэтым годзе дадатковую колькасць спажывецкіх тавараў і шэраг дадатковых жылых памяшканняў. (яч)




**Niedziela 8.XI.**

8.15 TV Kurs Rolniczy: „Czy i jak inwestować w gospodarstwie; 8.50 „Przypominamy, radzimy"; 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych"; 9.30 Dla młodych widzów: „Znajda" — film fab. radz.; 10.25 „Piosenka dla Ciebie"; 11.30 „Golf — Delta na prostej..." — rep. z Centralnego Portu Lotniczego w Warszawie; 12.00 Dziennik; 12.15 „Leśni szperacze" — film TVP; 12.35 „Szlakami zabytków"; 13.00 XII Symfonia — rok 1927 D. Szostakowicza; 14.00 „Przemiany"; 14.30 „Wars contra Universal" — teleturniej (Warszawa — Łódź); 15.30 Teatr Młodego Widza Fr. Fenikowski — „Baśń gdańska"; 16.00 Mecz piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi Górnik — Legia. W przerwie: PKF; 17.50 „Studio 63": A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz" księga I „Gospodarstwo"; 18.40 „Goście z Hotelu Victoria" — rep.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Angelo — nic ci się nie stało?" — film tv ang.; 21.00 Mecz hokejowy Polska — NRF (eliminacje do Mistrzostw Świata) (Monachium); 22.15 „Dziś Partita"; 22.20 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 9.XI.**

15.20 i 23.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.50 „Reklama w piosence"; 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Kazimierz Konrad; 18.30 „Eureka"; 19.00 „Niedziela w Baku" — film Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: L. Tołstoj — „Żywy trup"; 21.45 Część I uroczystego koncertu z okazji 400-lecia Państwowej Orkiestry Berlińskiej"; 22.40 Dziennik.

**Wtorek 10.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Plautus „Żołnierz Samochwał"; 9.30 Przerwa; 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Z wycieczką w Beskidy"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V — VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" (Życzliwość); 11.25 „Rzeka posępna" — film fab. radz. cz. II; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Pracujemy w Zespole Przysposobienia Rolniczego" — Praca Kółka Rolniczego w naszej wsi; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.35 „Meble na dziś czy na jutro"; 19.00 „Z życia pstrągów" — film czechosł.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Rzeka posępna" — film fab. radz. cz. II; 21.25 „Trwałe związki" — program poświęcony współpracy kulturalnej między Polonią a krajem; 21.55 „Pewnej niedzieli" — nowela film. franc.; 22.20 Dziennik.

**Środa 11.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Wróg metali"; 9.30 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „O ładunkach i siłach elektrycznych"; 10.25 „Posiadacz" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"); 11.15 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód; 14.05 Przerwą; 15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Aula"; 17.15 Magazyn ITP; 17.25 PKF; 17.35 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia" — „Przymiarka"; 18.05 „Il Maestro di Cappella" — film TVP; 18.30 „Naukowcy w mundurach"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Posiadacz" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"); 20.55 „Swiatowid"; 21.25 „Humor z łezką" — program poświęcony Kornelowi Makuszyńskiemu; 22.15 Dziennik.

**Czwartek 12.XI.**

8.15 Matematyka w szkole: „Izometria w przestrzeni trójwymiarowej" cz. I; 8.45 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Jan Matejko"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Leśmian, Staff, Tuwim"; 12.30 Przerwa; 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ hamulcowy" cz. I i II; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Mustang" — film TV pol.; 17.00 Rewanżowy mecz hokejowy Polska — NRF (eliminacje do Mistrzostw Świata); W 2-ej przerwie: TV Kurier Kielecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr Sensacji i Fantastyki: J. Słotwiński i R. Sosiński — „Dr Kawka"; 21.05 „Alfabet rozrywki" — „Od B do B" — odc. II; 21.50 „Refleksje"; 22.20 Dziennik.

**Piątek 13.XI.**

9.55 „Małe konflikty" — film tv franc. („Szczęście małżeńskie"); 10.20 „Dziecko wojny" — film fab. radz.; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Architektura"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I — III lic.) Przysposobienie obronne — „Srodki ochrony i obrony"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora"; 17.40 „Nie tylko dla pań"; 18.05 Magazyn Medyczny; 18.35 „Wiej wietrze wiej" („Muzyka Krajów Nadbałtyckich"); 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Małe konflikty" — film tv franc. („Szczęście małżeńskie"); 20.30 „Kraj"; 21.10 „Dziecko wojny" — film fab. radz.; 22.40 Dziennik.

**Sobota 14.XI.**

9.30 „Sprawa honorowa" — film fab. wł.-franc.; 10.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Cytologiczne podstawy genetyki"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Jamochłony"; 12.25 Przerwa; 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Gospodarstwo przykładowe w chowie bydła"; 15.55 Program tygodnia; 16.15 „Oferty"; 16.30 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: „Naszej pani z Ia"; 17.45 „Godzina szczerości"; 18.35 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Z wizytą u Was"; 21.30 Dziennik; 22.05 „Sprawa honorowa" — film fab. wł.-franc.; 23.25 „Rytmy Ameryki Łacińskiej" — film rozrywkowy NRD.




**Piątek, 6 listopada**

8.05 Nowiny; 8.15 Spektakl kukiełkowy; 9.10 Film fab.; 10.30 Leninowska warta; 11.10 Nowiny; 14.25 Program dnia; 14.30 Dla dzieci; 14.45 Nowiny; 14.55 Uroczysta akademia i koncert. Transmisja z Kremlowskiego Pałacu Zjazdów. Po zakończeniu hokej: „Dynamo" (Moskwa) — CSKA; 20.15 Koncert estradowy; 21.00 Film TV; 22.10 Nowiny.

**Sobota, 7 listopada**

7.45 Plac Czerwony. Defilada wojskowa; 8.50 Mińsk. Plac Centralny. Defilada wojskowa; 11.45 Koncert chóralny; 12.25 Film fab.; 13.45 Koncert dla uczniów; 14.10 Film fab.; 15.40 TV film dokumentalny; 16.45 Wiczór świąteczny w Ostankinie; 19.10 Czas; 20.25 Przy płomyku; 21.40 Nowiny; 21.50 Szkatułka muzyczna.

**Niedziela, 8 listopada**

8.00 Koncert; 9.00 Film fab. dla dzieci; 10.30 Kiosk muzyczny; 11.00 Dla wsi; 11.30 Koncert; 12.10 Reportaż TV; 12.40 Koncert dla przedszkolaków; 13.00 Świat socjalizmu; 13.30 Film fab.; 15.00 Klub filmowy; 16.00 Nowiny; 16.05 TV teatr miniatur; 17.15 Czas; 17.45 Program rozrywkowy; 19.30 Film fab.; 20.45 Koncert artystów operetkowych.

(Працяг са стар. 1)

# ВЯСКОВАЯ СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА



Ільічэўская сярэдняя школа.



Шасцікласнікі, члены бібліятэчнага гуртка, вывучаюць мікрапрэпараты мускульнай тканкі жывёлы.

і птушак. А на сценах — фатаграфіі з жыцця школы.

Заняткі, як правіла, праходзяць у спецыяльна абсталяваных кабінетах. У літаратурным кабінеце на сценах партрэты вядомых савецкіх пісьменнікаў. Прыгожа аформлены плакаты аб іх жыцці і дзейнасці. Тут жа — сценгазета «Наша слова». На яе старонках вучні змяшчаюць першыя свае вершы і апавяданні.

З густам аформлены кабінеты гісторыі і геаграфіі, матэматыкі, хіміі, музыкі і спеву. Самым багатым кабінетам з'яўляецца школьная лабараторыя.

Вялікую ўвагу школа ўдзяляе прафесіянальнай арыентацыі школьнікаў. Гэтай мэце служаць варштаты, дзе вучні вучацца сталярскай і слёсарскай справе. А на прышкольным участку, які займае два гектары, дзеці пазнаюць тонкасці працы хлебароба.

Гонарам школы з'яўляецца музей Уладзіміра Ільіча Леніна. Яго гісторыя такая.

Гадоў восем таму назад у настаўніцкім калектыве нарадзілася думка стварыць у школе музей У. І. Леніна. Вучні падтрымалі гэту прапанову, выбралі савет музея. І закіпела праца. Напісалі пісьмы старым бальшавікам, якія працавалі з У. І. Леніным, у дзяржаўныя музеі краіны, вядомым дзяржаўным дзеячам, пісьменнікам. Неўзабаве ў школу паплылі пісьмы, тэлеграмы, бандэролі. Завязалася перапіска з зарубежнымі музеямі. Так, напрыклад, дырэктар Пражскага музея У. І. Леніна прыслаў нарыс аб жыцці і дзейнасці Леніна ў Чэхаславакіі. Прышло пісьмо з Лонданскай бібліятэкі. Цёплае пісьмо прыслаў вучням і былы генеральны сакратар Камуністычнай партыі Францыі Марыс Тарэз.



Будучыя мастакі.

Стварэнне музея стала пачаткам глыбокай і мэтанакіраванай выхаваўчай працы з вучнямі на прыкладзе жыцця і дзейнасці У. І. Леніна.

Юныя ільічоўцы стараюцца быць вартымі старшага пакалення. Кожны трэці вучыцца толькі на добра і выдатна. За поспехі, дасягнутыя ў навучанні і выхаванні вучняў, школе была прысуджана Ленінская ганаровая грамата ЦК КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР, Белсаўпрофа.

Л. ЛАРЫЧКАВА

Фота Э. ТРЫГУБОВІЧА

ЗАПІСКІ З ПАДАРОЖЖА

# У РУМЫНАЎ РОДАМ з МІХАЛОВА

У сталіцу Румыніі Бухарэст прыехаў я з сям'ёй цёплай нядзельнай раніцай. У кішэні запіска: Канстанчук Ян. Бухарэст, вуліца Мілецін 28. Гэта адрас. Вуліца Мілецін — невялічкая вуліца на ўскраінах сталіцы Румыніі, і знайсці яе даволі цяжка. Тым больш, што не ведаючы румынскай мовы, у Бухарэсце немагчыма з нікім толкам разгаварыцца. Нарэшце каля абеда знаходжу я невялікую вуліцу на ўскраінах горада, невялікі домік, а ў ім сям'ю Канстанчукоў. Сентыментальныя прывітанні, а пасля супольны абед.

Прыйшлі госці: малодшы брат Яна Канстанчука — Міхал Канстанчук, ды яго жонка. Пачалася доўгая гутарка. Гутарка на розных мовах. Гаспадар умее гутарыць па-беларуску і па-польску, яго малодшы брат разумее славянскія мовы, але гутарыць не можа. Жонкі ведаюць толькі румынскую мову.

Але да справы. Нашыя знаёмыя румыны з Бухарэсту — Ян і Міхась Канстанчукі сапраўды родам з Міхалова. У Бухарэст прыехалі ў раннім дзяцінстве, зараз пасля І сусветнай вайны. Бацька іх быў майстрам тэкстыльнай прамысловасці, яшчэ «за цара» працаваў на тэкстыльнай фабрыцы ў Міхалове. Фабрык такіх, як ведаем, да І сусветнай вайны было ў Міхалове шмат. Прадукавалі адборны матэрыял, які славіўся ва ўсёй Расіі.

Пасля вайны зніклі рынкі збыту міхалоўскай прамысловасці, і многія з яе дасканалых майстроў засталіся без работы. Прамысловасць гэтую пачала тады развіваць Румынія, запрашаючы да сябе спецыялістаў з усяго свету. З Міхалова выехала ў Румынію шмат людзей, знаходзячы там работу і заробак у сваёй прафесіі. Сярод іх апынуўся і Канстанчук са сваімі сынамі. Сыны засталіся вернымі прафесіі свайго бацькі і працуюць сёння ў тэкстыльнай прамысловасці сацыялістычнай Румыніі.

Сядзім за вялікім, круглым румынскім сталом ды размаўляем. Гаспадыня хаты, цёця Мэры падносіць нам розныя румынскія ласункі. Канстанчукі ўспамінаюць, што могуць успомніць са свайго ранняга дзяцінства на Беласточчыне. Распытваюць пра Міхалова, як жывуць людзі, чым займаюцца, колькі зарабляюць грошай і на што іх выдаюць. Адказваю падрабязна і дакладна.

Потым усе разам ідзем у горад паглядзець Бухарэст. Горад, як горад — мноства магазінаў, рэстаранаў і невялікіх старадаўніх цэркваў. Заходзім у адну з іх у цэнтры горада, каб паглядзець ды паслухаць румынскае богаслужэнне. Для мяне гэта асаблівая цікаўнасць. Румыны з'яўляюцца адзіным лацінскім народам, які ў даўнія часы прыняў праваслаўе і культура якога фармавалася пад уплывам гэтага веравызнання. Адсюль спецыфіка румынскага культу — багатага і прыгожага, узнікшага са скрыжавання лацінства і славянскасці. Вось хаця б іконы, такія падобныя да вядомых мне праваслаўных ікон. Перада мною аскетычная постаць святога з надпісам лацінскімі літарамі: St. Muchenic Panteleimon, — святы мучанік Панцеляймон. Ці румыны разумеюць слова «мучанік», якое з'яўляецца чыста славянскага паходжання?

Царква гучыць напевамі вядомых мне мелодый на невядомай мне румынскай мове. Выходзім, каб на змярканні пашпацыраваць яшчэ па Бухарэсце. На двары ўжо восень, у Бухарэсце аднак цёпла — можна б сказаць — горача. Таму вячэрні шпацыр — асаблівая прыемнасць. Ідзем вуліцаю, якая называецца Calea Victorei, што абазначае: Шлях Перамогі. Гэта галоўная вуліца Бухарэста. Размешчаны тут дзяржаўныя ўстановы — гмах ЦК партыі, гмах Парламента, старыя манументальныя будынкі, помнікі культуры і румынскай дзяржаўнасці.

Пацікавіўся я — адкуль названне вуліцы: Шлях Перамогі? Ці назвалі так галоўную вуліцу Бухарэста пасля вайны для адзначэння перамогі сацыялізма? Не, назвалі яе так даўно, для адзначэння перамогі румынаў над усімі іх ворагамі і ўзнікнення незалежнай румынскай дзяржавы.

Канец спякотнага дня. Вечарэе. У такую пару прыемна вандраваць румынскім Шляхам Перамогі і гутарыць аб далёкім Міхалове і яго справах.

*Ул. Паўлючук*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

## ПРА ЎРАДЖАЙ

Мы ўжо раз пісалі, што сёлетні ўраджай у гаспадароў Беластоцкага ваяводства ў сярэднім на 2—3 цэнтнеры слабейшы ад мінулагодняга. Аказваецца, што адносіцца гэта толькі да ўсходніх і паўднёвых паветаў Беласточчыны. На поўначы, у т.зв. раёне «Эго», ураджай не горшы, а яшчэ лепшы ад мінулагодняга.

У цэлым ваяводстве таксама лепшы ўраджай сена, бульбы і іншых кармавых. Спецыялісты ацэньваюць, што сёлетні ўраджай бульбы вышэйшы аж на 25 цэнтнераў.

## ПРА СКУПАЧНЫЯ ПУНКТЫ

У апошніх гадах умяшчальнасць збожжавых складаў, якія знаходзяцца ў распараджэнні гмінных спулдзельняў «сялянскай самапомачы», павялічылася ў 5 раз. Склады з умяшчальнасцю ў звыш 600 тон маюць змеханізаваную разгрузку і пагрузку збожжа. Такіх складаў ВЗГС мае ўжо аж 27. У час самых высокіх паставак збожжа склады працавалі на дзве змены.

Адначасова, каб аблегчыць працу высокапрадукцыйным гаспадарам, ГС-ы маюць абавязак уласным транспартам забіраць збожжа непасрэдна з панадворкаў сялян, калі яны адразу паставяць на продаж звыш 3-х тон.

## ПРА ЎГНАЕННІ

Беластоцкае ваяводства поўнасцю выканала план продажу штучных угнаенняў, прызначаных для прымянення ў першым перыядзе ўгнойвання палёў. Гэтае сцвярджэнне, на жаль, не дае асноў для радасці і энтузіязму, бо не ўсе паветы добра справіліся са сваімі задачамі ў гэтай галіне сельскагаспадарчай дзейнасці. З публічнага выступлення намесніка старшыні ВЗГС-у — Яна Ціхоўскага — на нарадзе сельскагаспадарчых дзеячоў вынікала, што найгорш ідзе продаж штучных угнаенняў у Гайнаўскім павеце.

Пры гэтай нагодзе варта адзначыць, што нядаўна адбылася ў Гайнаўцы сесія павятовай рады, на якой радныя абмяркоўвалі перш за ўсё менавіта спосабы больш спраўнага распаўсюджвання штучных угнаенняў сярод сялян. Сесія выпрацавала праграму і сродкі дзейнасці, каб не змарнаваць такога каштоўнага дабра, якім для сельскагаспадарчай вытворчасці з'яўляюцца штучныя ўгнаенні.

Адначасова старшыня Ян Ціхоўскі паабяцаў, што ВЗГС не будзе перакідваць у іншыя паветы тых штучных угнаенняў, якія засталіся на складах гайнаўскіх ГС-аў — нават нягледзячы на тое, што ў іншых раёнах ваяводства іх бы ахвотна і з падзякай купілі.

## НА САКОЛЬШЧЫНЕ

Да 1975 года на пясочных палях Сакольшчыны паявіцца 2 тысячы гектараў зялёнага лесу. Павялічыцца таксама на амаль 3% плошча садоў. На дарогі, новыя будоўлі і іншыя прамысловыя патрэбы прыдзецца прызначыць у гэтым жа часе амаль 400 гектараў зямлі. Такім чынам, плошча зямельных угоддзяў на працягу наступнай пяцігодкі зменшыцца тут на звыш 2%. Калі ўлічыць, што гэты працэс будзе паглыбляцца з кожным годам, ды не толькі на Сакольшчыне, а і ў цэлай нашай краіне, дык каб пракарміць усё нарастаючую колькасць насельніцтва, неабходна ўжо цяпер пастаянна павялічваць ураджаі.

Кіраўнікі і арганізатары сельскагаспадарчай прадукцыі ў Сакольскім павеце думаюць пра гэта. У сваёй праграме на 1971—1975 гады прадбачваюць, што сяляне ў іх павеце будуць прымяняць звыш 150-ці кілаграмаў чыстага азоту, фосфару і калію на 1 гектар, выкарыстанне вапны павялічыцца ў 2,5 разы.

*М. Нурэцкі*

Пачатак на стар. 1

# ПАСТАНОВЫ КАСТРЫЧНІЦКАГА ПЛЕНУМА ГП БГКТ

9. Усебакова развіваць культурна-асветную дзейнасць у бягучым годзе; будзе гэта найлепшым святкаваннем 15-ай гадавіны грамадска-палітычнай і культурна-асветнай дзейнасці БГКТ у Польшчы.

10. Імкнуцца арганізоўваць фальклорныя калектывы з мэтай паказу на сцэне багатай народнай творчасці Беласточчыны.

11. Супольна з дырэкцыямі ліцэяў і бацькоўскімі камітэтамі арганізаваць з'езды выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. З'езды гэтыя будуць садзейнічаць большай актыўнасці гэтых выпускнікоў у культурна-асветнай дзейнасці нашага таварыства.

12. Зрабіць спробы дзеля прапагандавання беларускага аматарскага руху Беласточчыны ў «Вясёлым аўтобусе» і «Падвячорку ля мікрафона».

13. Працягваць працу над збіраннем беларускага фальклору на Беласточчыне студэнтамі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта; весці сістэматычную яго апрацоўку і публікаваць сабраныя матэрыялы.

14. Актывізаваць працу лектарскай групы пры ГП БГКТ і больш актыўна і ўдумліва арганізоўваць аўтарскія сустрэчы членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

15. Падрыхтаваць матэрыяльную частку (планшы, габлёты і г.д.) дзеля арганізацыі рухомых выставак беларускага народнага мастацтва, этнаграфічных экспанатаў, творчасці мастакоў, якія згуртоўваюцца пры ГП БГКТ.

*«...Мы належым да таго свету, які вядзе сваю радаслоўную ад Кастрычніцкай рэвалюцыі і чэрпае сілы ў ёй...»*

*Уладзіслаў Гамулка*

I сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП выказаў гэтыя словы ў час урачыстага адкрыцця помніка рэвалюцыйнай барацьбы ў Сасноўцу. Прыпамінаем іх глыбокі змест з нагоды Кастрычніцкага свята. Сапраўды, наша сённяшняя штодзённасць нарадзілася з ідэй, заваяваных вялікім Кастрычнікам. І таму непарушнай з'яўляецца дружба між польскім і савецкімі народамі.

А для нас, пражываючых у прыгранічным Беластоцкім ваяводстве, асабліва дарагім скарбам з'яўляецца сапраўднае, шчырае братэрства з беларускім народам.

Тут яшчэ раз варта звярнуцца да слоў Уладзіслава Гамулкі, які на мітынгу беларуска-польскай дружбы ў Мінску сказаў:»

*«Беларускі народ з'яўляецца не толькі другам польскага народа, але і яго братам. І гэта ніколі і ніхто не зможа змяніць...»*

Тым больш, што цяперашняя Беларусь — ужо не тая Беларусь, сімвалам якой былі непраходныя Пінскія балоты і мужыкі ў лыкавых лапцях. Цяперашняя Савецкая Беларусь стала рэспублікай аўтамабільнага і трактарнага машынабудавання, нафтавай і хімічнай прамысловасці, здабычы і перапрацоўкі калійных солей, буйнейшых фабрык і заводаў па вытворчасці штучнага валакна і розных тканін. Гадзіннікі, радыёэлектроніка, радыёапаратура, аўтаматычныя лініі, станкі, дакладнае прыборабудаванне, разлікова-рашаючыя ўстройствы — усяго не пералічыць, што вырабляецца рукамі працоўных Беларусі. Толькі за гады апошняй сямігодкі ў Беларусі пабудавана і ўведзена ў дзеянне больш трохсот буйных прадпрыемстваў і цэхаў, у тым ліку такія прамысловыя гіганты, як: першы і другі Салігорскія калійныя камбінаты, Полацкі нафтахімічны камбінат, Гродзенскі азотнатукавы і Мінскі маторны заводы, Светлагорскі завод штучнага валакна, Баранавіцкі папяровы камбінат, Бярозаўская, Белаазёрская і Васілевіцкая электрастанцыі... ды многа, многа іншых. Коратка кажучы, сучасная Беларусь — краіна вялікай індустрыі, высокай культуры і разгалінаванай навукі. Пры тым Беларуская рэспубліка займае віднае месца на міжнароднай арэне. Яна з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, актыўна ўдзельнічае ў рабоце шматлікіх міжнародных арганізацый, уносіць значны ўклад у справу барацьбы народаў за ўмацаванне міру і развіццё чалавецтва па шляху прагрэсу, нацыянальнай незалежнасці і дэмакратыі. БССР падтрымлівае сувязь з 200 замежнымі грамадскімі арганізацыямі 52 краін.

З такой вось высока развітай суседняй краінай у нас цесныя сяброўскія суадносіны. Ажыццяўляюцца яны на самых розных узроўнях — ад міждзяржаўнага і міжпартыйнага аж да індывідуальных кантактаў паасобных грамадзян, пражываючых па абодвух баках дзяржаўнай мяжы. Варшаўскае ваяводства здаўна ўтрымоўвае цесныя сувязі са сталічным Мінскам і Мінскай

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

# СУПОЛЬНАСЦЬ НАШАГА ЛЁСУ



*Група польскіх навуковых працаўнікоў ля будынка аддзела механікі палімераў Акадэміі навук БССР у Гомелі.*

# У МІЛЕЙЧЫЦКАЙ СВЯТЛІЦЫ

У мілейчыцкай святліцы ўжо дзейнічае Рада. Старшынёй рады з'яўляецца Віталі Высоцкі, старшыня сельгасгуртка, член прэзідыума ГРН, а святліцовым (няштатным) — вядомы дзеяч БГКТ Сяргей Крэйза.

Усім было вядома, што ў мінулым святліца ў Мілейчыцах не магла пахваліцца амаль ніякай дзейнасцю. І таму я не меў адвагі звярнуцца да Крэйзы з запытаннем аб іх дасягненнях. Але ён сам неяк уцягнуў мяне ў размову, нібы пытаючыся, нібы расказваючы аб формах дзейнасці святліцы.

За гадавы перыяд дзейнасці рады святліцы прыдбана тут на культурную дзейнасць 16.021 зл. Найбольш даходу далі даходныя мерапрыемствы (забавы, выезды мастацкага калектыву). Але нельга забыць пра такіх ахвярадаўцаў, як мясцовы ГС, СОП ці ГРН. Закуплена за гэта дзве электрычныя гітары, акустычны ўзмацняльнік, гучнагаварыцелі і іншыя рэчы да гэтых інструментаў.

Ад 1 кастрычніка г.г. пры мілейчыцкай святліцы распачалі працаваць два калектывы: музычнае агніска акардэаністаў і інструментальны калектыў. У плане — стварэнне харавой групы, якая б у сваім рэпертуары мела таксама і беларускія народныя песні.

Рада святліцы і кіраўнік імкнуцца ўсімі сіламі ўводзіць у працу ўсё новыя формы, адначасова ўдасканальваючы старыя. Напрыклад, новай і рэдка спатыканай формай працы святліцы з'яўляецца выкарыстоўванне мясцовага фальклору. У Мілейчыцах яго выкарысталі пры святкаванні гадавіны людовага руху. Цяжка, не бачачы мерапрыемства, яго ацэньваць, але трэба заўважыць, што гэта вельмі каштоўная справа, што яе трэба развіваць, і што гэта якраз тое, аб чым так шырока гавораць пастановы VI з'езда БГКТ.

У дзейнасці святліцы ёсць разнастайныя формы працы, пачынаючы ад сельскагаспадарчага шкалення, дакладаў і «згадуй-згадуляў», рэцытатарскіх конкурсаў і конкурсаў фальклорнай песні і на савецкую і беларускую песні, аж да працы святліцы з наймалодшымі.



*Сяргей Крэйза.*

Пераглядаю ўзорна ведзеную дакументацыю святліцы — дакументацыю яе жыцця. «Жывая газетка» — гэта загаловак накшталт сцэнарыя. Пытаю Сяргея: — Што гэта?

— А гэта наша новая форма працы ў святліцы. Гэтую газетку мы арганізавалі з нагоды Дня Перамогі. Сцэнарый апрацаваў я сам. Гэта працахлонная работа, але дае добрыя вынікі. На такую «жывую газетку» я запрашаю цікавых людзей нашай ваколіцы. Апрацоўваю т. зв. перадавіцу газеткі, а потым вядучы запрашае гасцей да выказванняў. Прысутныя гледачы захапляюцца гэтым, перажываюць на многа больш, чымсьці пры старой форме даклада і паасобных выступленняў. Зразумела, пасля такіх «артыкулаў» газеткі адбываецца «Згадуй-згадуля» на тэму, якой была прысвечана газетка.

Чуў я, што неўзабаве павятовыя ўлады маюць афіцыяльна ператварыць святліцу ў грамадскі цэнтр культуры (ГОК). Магчыма, што гэта ўжо сталася. Хочацца толькі сказаць, што святліца ў Мілейчыцах на гэта поўнасцю заслужыла.

*А. Карпюк*
*фота аўтара*

*НАСУСТРАЧ ШКОЛЕ*

# ІНФАРМАТАР РУХУ

Прадпрыемства распаўсюджвання прэсы і кніжкі «Рух» ужо многа год вядзе багатую і цікавую выдавецкую дзейнасць: выдае кніжкі, інфарматары, рысунковыя гульні для дзяцей, паштоўкі. Паштоўкі выдавецтва «Рух» займаюць асаблівае месца ў дзейнасці. Зроблены на высокім мастацкім і выхаваўчым узроўні, выходзяць яны серыямі. Была серыя рэпрадукцыі твораў польскага мастацтва і архітэктуры, прыродазнаўчая серыя, гістарычная серыя і г.д.

Выдавецтвы «Руху» не дарагія і ўсюды даступныя, у кіёсках і клубах «Руху» ва ўсёй краіне. Вельмі прытым прыдатны ў школьнай працы як настаўнікам, так і вучням. Прымаючы гэта ўсё пад увагу, выдавецкае бюро «Руху» ў Варшаве пачало выдаваць «Інфарматар пра выдавецтвы «Руху» («Informator o wydawnictwach «Ruchu»). Апошні нумар гэтага інфарматара апрацаваны пад агульным загалоўкам «Насустрач патрэбам школы», дае ясны агляд выдавецтваў, ацэньваючы адначасова, калі і ў якіх выпадках даныя пазіцыі найбольш прыдаюцца ў школе. Інфарматар датычыць школ пачатковых і сярэдніх. Заказы на інфарматар найлепш складаць па адрасу: Białystok ul. Lipowa 32a PUPiK „Ruch" tel. 24225-28. (вл)

Пачатак на стар. 1




праз размовы аб грамадзянскім палітычным выхаванні на выхаваўчых уроках і, нарэшце, праз важны ўступны элемент: у школе існавала і існуе добрая чытальня: у ёй знойдзеш ўсе школьныя газеты і ўсе важнейшыя тыднёвікі грамадска-палітычнага характару. Вучні не толькі ведалі і ведаюць пра «Палітыку», «Факты і думкі», ці «Праблемы міру і сацыялізма», але іх чыталі. Чыталі, бо знаходзілі цікавыя артыкулы, але на пачатку чыталі таму, што Ольга Такажэвіч вымагала справаздач аб прачытаных, прынамсі важнейшых, газетных артыкулах. Вымагала не толькі знаёмства гэтых артыкулаў, але і іх разумення і дыскусіі над імі.

Адносна самой кніжкі «Чалавек—свет—палітыка» ў школе. Тут першае месца заняла ленінская літаратура і асабліва біяграфічная. Біяграфіі вялікіх дзяржаўных дзеячаў і партыйных кіраўнікоў, паводле настаўніцы, найбольш цікавяць моладзь. На другім месцы Ольга Такажэвіч называе літаратуру аб польска-нямецкіх суадносінах, а на трэцім — праблематыку апошняй вайны.

Нарэшце, сказаць выразна хочацца, што моладзь з апісваемых намі школ купляла ўсе кніжкі за ўласныя грошы са сваіх ашчадных кніжак. Большасць моладзі гэтых школ выводзіцца з вёскі і большасць з іх на вёсцы працуе або будзе працаваць. Нясуць і панясуць яны веды і любоў да кніжкі сярод шырокіх мас.

Увагі Ольгі Такажэвіч датычылі: лепшага графічнага афармлення грамадска-палітычнай кніжкі, большай колькасці аўтэнтычных дакументаў у апрацаваннях нават найбольш папулярных.

### ДОБРАЯ ПАДРУЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Зацікаўленні старэйшых людзей значна больш, чым моладзі канцэнтруюцца на праблематыцы апошняй вайны. Рышард Пяткевіч — член клуба грамадска-палітычнай кніжкі — **любіць** чытаць ваенныя кніжкі, але таксама эканамічныя. Ён тэхнік-эканаміст, старшыня бельскай жыллёвай спулдзельні, а прытым актыўны грамадскі дзеяч. Расказвае, што многія гэтыя кніжкі з'яўляюцца для яго скарбніцай ведаў, дапамагаюць пры розных шкаленнях і дыскусіях. «Як добра мець пад рукой уласную падручную бібліятэку!» Ці цэны даступныя? Цэны вельмі даступныя. Што гэта за выдатак, калі дасягае ста злотых у месяц. За такія кніжкі не шкада... «Я калісь камплетаваў бібліятэку «Тыгрыса». Перастаў. Чаму? Прыйшоў да вываду, што «Тыгрыса» цяжка залічыць да гісторыі, часта гэта проста казкі». І далей: «Прыдаўся б кантакт, сход нейкі, ці з'езд хоць раз у год членаў клуба «Чалавек—свет—палітыка». Добрай справе служылі б дыскусіі і знаёмствы членаў. Спрыялі б пашырэнню зацікаўлення грамадска-палітычнай кніжкай».

Увагі: нерэгулярныя перасылкі заказаных кніжак.

### З ГЭТАЙ КНІЖКАЙ ЯШЧЭ ШЫРЭЙ

Сакратар прапаганды Бельскага КП партыі тав. Р. Матосюк лічыцца членам клуба грамадска-палітычнай кніжкі самым багатым. Паводле яго «выбар кніжак адпаведны, многа пазіцый палітычных і гаспадарчых, якія палітычнаму дзеячу прыдатны і патрэбны». Больш толькі, яшчэ больш трэба прапагандаваць гэтую кніжку, каб дайшла яна да ўсіх маладых дзеячаў, да ўсіх асяроддзяў.

Увагі: найважнейшае, што не датрымліваецца тэрмін у дасылцы. Таварыш Матосюк не атрымаў некаторых кніжак, заказаных яшчэ ў мінулым годзе. Якіх? «Клубная кнігарня добра ведае», — сказаў. Клубнай кнігарняй з'яўляецца кнігарня № 2 у Беластоку, на вуліцы Сянкевіча.

Наступная ўвага датычыць прэміяльных кніжак (г.зн. бясплатных кніжак, якія атрымліваюць за кожныя 6 заказаў платных). Прэміяльныя кніжкі прысылаюцца позна. «Мне, напрыклад, — кажа Раман Матосюк, — доўга не прысылалі Залускага «Сорак чацвёрты», аж трэба было высылаць інтэрвенцыю. Кніжку гэтую я мог раней купіць у кнігарні і на год раней яе прачытаць».

У каталогу на 70 год кніжныя прэміі мала цікавыя — гэта нядобра. Гэтыя кніжкі павінны таксама быць вартаснымі і як найбольш цікавымі, каб прыцягнуць да сябе чытача.

### ЯК МНОГА МОЖНА ДАВЕДАЦЦА...

Яўгеній Янчар, 20-цігадовы працаўнік бельскай пошты, узнагароджаны нядаўна Сярэбраным Крыжам Заслугі, доўга, але ўпарта шукаў кніжкі Жукава «Успаміны і рэфлексіі». Запісаўся нарэшце ў клуб і атрымаў жаданую кніжку. Ужо прачытаў.

вобласцю, Люблінскае ваяводства супрацоўнічае з Брэсцкай вобласцю, а мы, на Беласточчыне, братэрскую руку працягваем грамадзянам Гродзеншчыны. Толькі за перыяд з 1962 па 1965 год розныя ўстановы Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства больш ста разоў абменьваліся дзелавымі дэлегацыямі, у якіх прыняло ўдзел амаль паўтары тысячы чалавек. Прыкладам карысных для абодвух бакоў штодзённых кантактаў можа быць супрацоўніцтва гродзенскіх і беластоцкіх меліярантаў, энергетыкаў і тэкстыльшчыкаў з Гродна і Беластока, якія спаборнічаюць між сабой за лепшую і вышэйшую прадукцыю.

А нельга забыць пра вельмі папулярныя сярод насельніцтва Гродзеншчыны і Беласточчыны шматтысячныя мітынгі дружбы, якія даволі часта наладжваюцца ў прыгранічных раёнах.

Абшырна і падрабязна пра беларуска-польскія сяброўскія кантакты расказвае Э. Паздняк у кніжцы *«Суседзі і браты»*, якую некалькі месяцаў таму назад надрукавала Мінскае выдавецтва «Беларусь». Аўтар, між іншым, станоўча ацэньвае дзейнасць БГКТ.

*«Вельмі карысную работу,* — піша ён, — *па ўмацаванню дружбы паміж беларускім і польскім народамі праводзіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое было створана ў лютым 1956 года ў Беластоку».*

На багатым матэрыяле гэтая кніжка даказвае, што між намі няма праблем, якія рознілі б абодва народы, а толькі ёсць справы, якія дапамагаюць узаемнаму імкненню да лепшай будучыні. Пачатак такіх суадносін дала Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая замацавала супольнасць нашага лёсу.

*Віктар Рудчык*

## ПРА НЕДАВЕР ДА ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ

Шмат год некаторыя гаспадары з вёскі Вярцень у Бельскім павеце дамагаліся ў сваіх мясцовых і павятовых улад, каб электрыфікаваць іх вёску. У 1967 годзе быў заснаваны ў Вярцені грамадскі камітэт для правядзення электрыфікацыі. Душой і асновапаложнікам гэтага камітэта стаў кіраўнік мясцовай пачатковай 8-мікласнай школы, таварыш Ежы Малэцкі. Апрача яго ў гэтым камітэце знаходзяцца Станіслаў Керсноўскі, Чэслаў Жэпнеўскі, Язэп Шкляж і Нявінскі. Камітэт склікаў некалькі сходаў, на якіх было пастаноўлена, каб усімі спосабамі дабівацца электрыфікацыі. Калі аднак прадпрыемства па электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ў Беластоку апрацавала план і за яго апрацоўку трэба было заплаціць 11 тыс. злотых, многія гаспадары адмовіліся ад электрыфікацыі і не захацелі даваць якіх-колеч складчын, вызначаных на гэтае мерапрыемства. Кіраўнік школы гаворыць, што ён сам з уласнай кішэні вымушаны быў залажыць 500 зл., бо ўжо больш ніхто не хацеў яму дапамагчы.

Дык, такім чынам, вёска Вярцень засталася без электрычнага святла і не вядома, калі яно там раз'ясніць начную цемру. Дзіўна гэта тым больш, што ў Вярцені дзейнічаюць: партыйная арганізацыя, гурток ЗСЛь, гурток ЗМВ і гурток вясковых гаспадынь.

*М. Нурэцкі*

— Як вы даведаліся пра кніжку?

— На дзень Сувязіста быў я ў Беластоку на нарадзе. У перарыве ў кутку на століку ўзяў у рукі часопіс «Край Рад». Прачытаў там пра кніжку і фрагмент з яе. Пачаў шукаць у Беластоку, у Бельску. Нарэшце, спаткаў паню Пасынюк з нашай кнігарні...

Чалавек крыху цікавіцца палітыкай і многа пра Жукава чуў. «Кніжка яго мне вельмі спадабалася. Гэта вялікія лёсы вялікага чалавека, багатая біяграфія, вялікія і адказныя дзяржаўныя пасады, многа спраў сакрэтных, размовы Жукава са Сталіным, як перакідвалі яго з месца на месца, бо ж там, дзе было найгорш, туды ставілі Жукава. І яго поспехі — бо мо Жукаў нават больш рабіў, чым сам Сталін.

Я наогул кніжак не чытаю, але калі іх чытаю, то часта адчуваю, што замнога вады. А ў Жукава ведаеш і адчуваеш усе факты аўтэнтычныя. Напісаў яе мовай лёгкай і зразумелай. Цікавы такі факт: у Жукава не было ліній фронту. Дысцыпліну трымаў, але кожны мог да яго дайсці і быў выслуханы».

Увагі: «Каб большы тыраж, раскупілі б! Многа людзей не бачыла зусім гэтай кніжкі. Сваю я пазычыў для чытання калегу, але не надоўга. Баюся, каб не знішчылася. Бо ў мяккай вокладцы. Каб была цвёрдай... Я дагаварыўся, што сваю кніжку занясу інтралігатару, каб падшыў цвёрдыя вокладкі».

*Вера Леўчук*

# СЕСІЯ НА ЗАВОДЗЕ

Гайнаўка — другі пасля Беластока прамысловы цэнтр у нашым ваяводстве. Тут якраз знаходзіцца Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці — найбольшае ў даны момант прадпрыемства такога тыпу ў Польшчы; тут працуе 1200 чалавек, што складае больш 20 працэнтаў усіх рабочых, працуючых у нашым горадзе.

Існаванне такога вялікага прамысловага прадпрыемства ў параўнальна невялікім горадзе прымушае гарадскія ўлады ў Гайнаўцы звярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб стварыць для работнікаў гэтага прадпрыемства адпаведныя ўмовы для жыцця і працы, а перш за ўсё ў галіне камунальнай гаспадаркі і сацыяльна-культурных устаноў.

Для таго, каб пашырыць супрацоўніцтва з прадпрыемствам, якое робіць вялікі ўплыў на характар горада, МРН па ініцыятыве радных, працуючых на прадпрыемстве (а ёсць іх 9 чалавек), правяла сваю чарговую сесію на Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці. Парадак дня сесіі прадугледжваў справаздачу дырэкцыі гэтага прадпрыемства аб гаспадарчай і культурна-асветнай дзейнасці ў 1969 годзе і I паўгоддзі 1970 г., а таксама справаздачу Прэзідыума МРН аб супрацоўніцтве з прадпрыемствам і працы радных. Вялікая зала, табліцы і статыстычныя дыяграмы аб дзейнасці прадпрыемства, прысутнасць вялікай колькасці радных, а таксама каля 40 чалавек з па-за рады (рабочыя, прадстаўнікі дырэкцыі, рабочай рады і рады прадпрыемства, члены камісій МРН, а таксама палітычныя, грамадскія і культурныя дзеячы, якія заўсёды цікавяцца працай рады нарадовай), — усё гэта спрыяла правядзенню пасяджэння на адпаведным узроўні.

Даклад, зроблены дырэктарам інж. Аляксеем Зінам, ахопліваў шырокую праблематыку. Як ужо адзначалася, у сучасны момант на Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці працуе 1200 чалавек. Гадавая перапрацоўка сыравіны складае 110 тыс. м³. Дзякуючы пабудове новых аддзелаў, прадпрыемства выпускае 200 тыс. м² вельмі дэфіцытнай мазаікі для падлогі, 7 млн. м² акляіны для мэблі, 10 тыс. м² фрызарскіх вырабаў, 3,5 тыс. м³ драўлянай упакоўкі і 1200 камплектаў ку-



*На Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці.* *Фота Цаф — Сянько*

хоннай мэблі. У сучасны момант пачынае працаваць фабрыка мэблі, будуецца фабрыка стружкавых пліт.

Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці будзе выпускаць амаль на 190 млн. зл. у год акляінавай мэблі. Аддзел мэблі прыме на работу 650 чалавек, у тым ліку 350 жанчын. Фабрыка стружкавых пліт сваю прадукцыю будзе абапіраць на драўнінных адпадках, якія атрымліваюцца на прадпрыемстве. Дагэтуль 28 тыс. м³ адпадкаў прызначалася на абаграванне хат для рабочых. Такім чынам, гэта будзе камбінат, які драўнінную сыравіну з Белавежскай пушчы і іншых лясоў ваяводства перапрацуе не толькі на матэрыялы цёртыя, але ў далейшым прадукцыйным цыкле перапрацуе на гатовыя вырабы найвышэйшай якасці. Як толькі закончыцца разбудова прадпрыемства, вартасць таварнай прадукцыі ўзрасце з 180 млн. зл да 400 млн. зл у год.

Калі пачнуць працаваць фабрыка мэблі і фабрыка стружкавых пліт, Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці стане першым у Польшчы комплексным драўнінным камбінатам. Ён будзе адным з найбольш сучасных прадпрыемстваў такога тыпу ў Еўропе.

Варта падкрэсліць, што радныя МРН, а таксама прыбыўшыя госці маглі публічна ўпершыню так падрабязна пазнаёміцца з лічбамі і фактамі, якія адлюстроўваюць прадукцыйны профіль прадпрыемства, маглі ацаніць велічыню капіталаўкладанняў і зразумець фінансавае становішча прадпрыемства. Аб усім гэтым гаварылася ў жывой і цікавай дыскусіі, якая працягвалася некалькі гадзін.

КАСТУСЬ ЛЯШЧЫНСКІ
*старшыня Прэзідыума МРН у Гайнаўцы*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцік або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○**



### IV

**Вось табе і няхітрая навука! — Прыйшлося пакаштаваць сырога зайца. — Дынама-машына. — Агонь! — Крыўда Віктара. — Навуковая дыскусія.**

— Толькі пачатак цяжкі, — казаў раніцою Мірон, устаючы, — а вось другая ноч была зусім нядрэнная. Можа, і да голаду прывыкнуць можна будзе. Прынамсі, цяпер я не адчуваю яго.

Не адчуваў голаду пакуль што і Віктар, толькі ў роце было неяк нядобра.

Паўстала пытанне, што спачатку рабіць: ці «хату» будаваць, ці агонь здабываць? Спрачацца не прыйшлося — аднагалосна прызналі, што агонь важней. Але як прыступіцца да гэтай справы?

— Неяк церці ды круціць трэба сухія трэскі, — прамовіў Віктар. — А як яно робіцца — ты ведаеш?

— Ну, гэта навука няхітрая, — адказаў Мірон.

Узялі два сухія кавалкі і пачалі церці адзін аб адзін. Церлі доўга, цярпліва, некалькі разоў мяняліся. Але агню не было. Праўда, кавалкі так нагрэліся, што дакрануцца да іх нельга было. Але да агню было яшчэ далёка.

— Пачакай! — крыкнуў Віктар. — Трэба ж падрыхтаваць сухой губы і іншай трухі. Само дрэва полымем не загарыцца.

— Ведаю я гэта, — адказаў Мірон, — але пакуль што няма ад чаго губу запальваць. Гэтыя трэскі толькі нагрэюцца — і ўсё. Як жа яны запальваюцца? Няўжо не памятаеш? Ты, мусіць, не раз чытаў.

— А ты не чытаў? Чаму ж ты не ведаеш?

— Ды неяк не звяртаў увагі на падрабязнасці. Пішуць, што труць і круцяць, а як — не цікавіўся.

— Каб ведаць, што яно спатрэбіцца.... — уздыхнуў Віктар.

— Не ўмеем мы ўважліва чытаць кнігі, — з роздумам сказаў Мірон, — столькі разоў чытаў, а як — не заўважыў.

— Лепш тады выбіць агонь крэменем, — прапанаваў Віктар.

— Вядома, лепш, каб яго знайсці, — згадзіўся Мірон. Але дзе там было знайсці крэмень сярод балота!

Думка аб тым, што агню здабыць не ўдасца, зусім збянтэжыла хлопцаў. На момант яны адчулі, што ім нічога не хочацца рабіць, што іх нішто не цікавіць і што сонца ўжо не грэе. Але праз хвіліну Віктар крыкнуў:

— Падрыхтуй ты чаго-небудзь сухога на распал, а я буду церці хоць цэлы дзень. Галоўнае — не спыняцца.

Сцяўшы зубы, ён зноў пачаў церці — моцна, упарта, доўга. Кроплі поту падалі на дрэва і бадай што сінелі ад гарачыні, а дыму не было. Нарэшце абодва кавалкі пакрышыліся ў руках. Віктар злосна кінуў іх і пачаў выціраць лоб.



— Што ты робіш?! — крыкнуў Мірон і выхапіў палку. — Ты ж замочыш яе! Ты як-небудзь інакш.

Тады Віктар пачаў вастрыць яе аб дрэва, потым уціснуў канец у шчыліну ў дрэве і пачаў круціць. А Мірон пайшоў у лес.

Праз некаторы час ён закрычаў:

— Віктар! Сюды! Хутчэй!

Віктар пабег. Мірон стаяў каля зрэзанага пня і трымаў у руках некалькі шырокіх трэсак.

— Хіба ты не мог без мяне прынесці гэтыя трэскі? — сказаў Віктар.

— Не тое. Зірні, вунь некалькі зрэзаных пнёў.

— Ну дык што ж?

— Значыцца, тут людзі бываюць. Значыцца, мы не на бязлюдным востраве. Значыцца, і выхад павінен быць.

— Гэта, браце, невялікая радасць. Напэўна, гэта магло быць толькі ўзімку, праз возера. А сядзець тут да зімы...

— І то праўда, я забыўся, — збянтэжана адказаў Мірон.

Пачалі наладжваць новую прыладу.

— У дошчачцы трэба выкалупаць ямку, — тлумачыў Мірон. — Уставім туды востры канец палкі, вось так. Я каменем буду паступова прыціскаць зверху, а ты круці палку то ў адзін, то ў другі бок.

Лёгка было сказаць, — «выкалупаць ямку». А калі дайшло да справы, то гэтае «калупанне» без прылады аказалася вельмі нялёгкай і маруднай справай. Колькі трэсачак пераламалі! Ды яшчэ трэба было сачыць, каб яны былі зусім сухія, бо іначай ямка зрабілася б вільготнай.

Нарэшце падрыхтоўчыя работы былі скончаны.

Віктар узяў палку між далонямі і пачаў круціць. Але машына спынялася кожную хвіліну; то рукі саслізнуць, то камень, то Мірон занадта прыцісне. Нарэшце Віктару далоні пачалі балець.

— Ды яно нават і не награецца, — з прыкрасцю сказаў ён. — І якім гэта чынам дзікуны робяць? Мы прывычаіліся з пагардай зваць іх дзікунамі, а самі — дурнейшыя ад іх. Тут патрэбна спецыяльная машына, каб круціць.

Мірон стаяў, апусціўшы галаву, і напружана думаў. Нарэшце ён крыкнуў:

— Успомніў! Успомніў! Трэба зрабіць лук, абкруціць адзін раз палку напятай струной і пілікаць, як на скрыпцы. Яна тады і будзе круціцца як след. Калісьці я нават і малюнак такі бачыў у адной кніжцы.

— Пачакай яшчэ скакаць, — недаверліва сказаў Віктар. — Мы ўжо рабілі па кніжцы.

— Тое, ды не тое, — упэўнена адказаў Мірон.

Знайсці і зламаць патрэбную галіну было няцяжка. Але што на яе напяць? Азірнуліся навокал, зірнулі на сябе.

— Давай шнурок ад сваіх чаравікаў! — крыкнуў Мірон.

Прыладзіліся. Падрыхтавалі губу, драбнюсенькія трэсачкі. Пачалі шморгаць лукам. Справа пайшла іначай. Нават Віктар пачаў спадзявацца.

— Дынама-машына, ды і годзе! — засмяяўся ён.

18.

— А можа, і загарэліся б, каб дрэва было цвярдзейшае, — нерашуча прамовіў Мірон.

Віктар толькі рукой махнуў:

— Дзе там? Каб туды ішло, то была б хоць якая-небудзь іскра ці дымок. А тут толькі гарачыня — і больш нічога.

— Але ў кнігах пішуць...

— Хай бы той сам спрабаваў, хто піша, — сказаў Віктар, цяжка дыхаючы.

Ён стаяў, апусціўшы рукі, нібы толькі што вылез з вады. Мірон ніколі не бачыў у свайго прыяцеля такога выразу твару, як цяпер: гэта быў не жыццярадасны юнак, а сталы мужчына з суровым тварам і складкамі на ілбе. Віктар нешта абдумваў. Затым цвёрдымі крокамі падышоў да зайца, падняў яго і пачаў разглядаць, адхіляючы пальцамі ў некаторых месцах поўсць.

— Што ты хочаш рабіць? — з жахам спытаў Мірон, здагадваючыся, у чым справа.

— Тое, што зрабіў бы на нашым месцы кожны разумны чалавек, — спакойна адказаў Віктар і, набраўшыся духу, нібы збіраўся кінуцца галавой у палонку, запусціў зубы ў спіну зайца...

Трэба адзначыць, што ў даным выпадку «геройства» Віктара было не ў тым, што ён з голаду адважыўся пакаштаваць сырога мяса, а ў тым, што ён аднымі толькі зубамі, праз поўсць і скуру, дабраўся да гэтага мяса. Гэта была вельмі цяжкая, складаная і непрыемная аперацыя...

— Ну, як? — затоіўшы дыханне, запытаўся Мірон, калі Віктар нарэшце адкусіў і праглынуў кавалак.

— Пакаштуй, — адказаў Віктар і працягнуў яму зайца.

Мірон нерашуча ўзяў, пакруціў яго, нацэліўся быў укусіць, але адклаў.

— Не, — прашаптаў ён, — не магу. Пакуль яшчэ не паміраю — пачакаю.

Віктар усміхнуўся.

—Не скажу і я, каб смачна было. І кусаць другі раз таксама пачакаю. Думаю, пакуль што і гэты кавалак што-небудзь дасць для арганізма. Але ўсё ж такі лічу за лепшае з'есці сырога мяса, чымся паміраць. Ну, смялей!

— Пачакай крыху, паспею, — прамовіў Мірон і зноў палажыў зайца на зямлю.

— Не надта паспееш, — сур'ёзна сказаў Віктар. — Калі доўга будзеш чакаць, то мяса і сапсавацца можа.

— Хоць трошкі пачакаем, — адмаўляўся Мірон, — а пакуль паспрабуем яшчэ іншым спосабам. Я там бачыў добрую палку.

Ён прынёс сухую гладкую альховую палку і падаў Віктару.

— Пастарайся завастрыць яе, а я пайду пашукаю яшчэ што-небудзь.

Віктар, не доўга думаючы, пусціў у ход свае зубы.

---

20.

Сучок круціўся, ямка паглыблялася.

— Поўны ход! Без перапынкаў! — камандаваў Мірон.

Віктар і без гэтага стараўся ваўсю. Але праз некалькі мінут лук як тарганецца ды як скокне ўбок!.. Ледзь Віктару вока не выбіў: гэта шнурок перапіліўся і парваўся.

— Вось няшчасце! — усклікнуў Віктар. — Чаму ж ты два шнуркі разам не скруціў?

— А чаму ж ты сам не сцяміў?

— Усё сам ды сам, а твая галава навошта?

— Няўжо ты забыўся, што гэты спосаб і шнуркі я прыдумаў, а не ты?

Тут Віктар убачыў, што даў маху. Але ж не ўступаць жа з-за гэтага! І ён, рыхтуючы шнуркі, усё ж такі бурчаў, абы толькі не маўчаць, абы толькі мець апошняе слова.

— Рана хваліцца новым спосабам — невядома яшчэ, што з яго выйдзе. А шнуркі знайсці на чужых нагах кожны здолее. Я і сам здагадаўся б, каб падумаў...

— ...месяцы са два, — у тон яму прадоўжыў Мірон. Віктар паглядзеў на яго і... шчыра зарагатаў.

Разарваны шнурок звязалі і скруцілі з цэлым. Але зноў бяда: вузялок перашкаджаў прыладзе рухацца!

Тады хлопцы накруцілі вакол шнуркоў тонкіх карэньчыкаў. Пасля таго ўся вяроўка зрабілася таўсцейшая, вузялок схаваўся, і ў дадатак яшчэ наогул магутнасць машыны павялічылася ў шмат разоў.

Зноў пачалі шморгаць лукам. Цяпер ужо цягаў Мірон, а Віктар прыціскаў палку каменем. І калі ўжо здавалася, што вось-вось пакажацца дымок, камень саслізнуўся і машына павалілася набок.

На гэты раз ужо Мірон не вытрымаў:

— Выходзіць, на які ўчастак цябе не пастаніць, заўсёды там будзе аварыя.

— Ды хіба ж я хацеў? — пакорна апраўдваўся Віктар.

Мірон і сам ведаў, што Віктар не вінаваты, таму нічога болей не сказаў.

Зноў пусцілі машыну. І вось, нарэшце, паказаўся дымок!..

— Ура! Давай, давай яшчэ! — закрычалі хлопцы, як вар'яты.

Дымок павялічваўся, апілкі зачарнеліся і... блiснула іскра!

— Падгарні падпал! Дзьмухай! Дзьмухай!..

Праз хвіліну хлопцы сядзелі ля агню. На тварах іх свяцілася такое шчасце, якога яны ніколі не адчувалі яшчэ ў сваім жыцці. Надыходзіў вячэрні змрок, і ад гэтага яшчэ ўтульней было каля агню.

— Нездарма першабытныя людзі пакланяліся агню, — разважаў Мірон, — нездарма і рэлігіі вядуць пачатак адсюль. Мне самому хочацца маліцца на яго. Усе мы так прызвычаіліся да агню, нам так лёгка здабываць яго, што нам здаецца, нібы гэтак заўсёды было і іначай быць не можа. Толькі ў такім становішчы, як мы, можна добра адчуць, што такое агонь, можна ўявіць, як жылі тыя людзі, што не ведалі яго.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# АЛЯКСЕЙ НІКАНЧЫКАЎ – ШПАЖЫСТ, ЯКОГА ЯШЧЭ НЕ БЫЛО

Пад такім загалоўкам «Пшэглёнд Спортовы» змясціў карэспандэнцыю свайго прадстаўніка на чэмпіянаце свету фехтавальшчыкаў пра беларускага спартсмена — чэмпіёна свету. Як вядома, чэмпіянат гэты, які нядаўна закончыўся, праходзіў у Турцыі. А вось спамянутая карэспандэнцыя:

Гэты бой прымусіў замерці ўсіх гледачоў на трыбунах анкарскай Спор Салёна Ататурк. З аднаго боку спакойны, зраўнаважаны беларускі волат з далёка выцягнутай перад сабою рукой, узброенай у шпагу. З другога — нахілены, быццам пружына, з апушчаным клінком, тэмпераментны вянгерац, які пастаянна атакуе маланкавымі даскокамі.

2:1, 3:2, 4:2 для вянгерца. Чаба Феньвесі ведае, здавалася б, што дамініруе ў гэтым фінальным баі, у якім разыгрываецца залаты медаль.

Аднак бліскучае пападанне ў руку вянгерца папраўляе стан паядынка для яго праціўніка на 3:4. За хвіліну зноў, калі Феньвесі кінуўся ўперад, спыніў яго трапны ўкол шпагі саперніка, зноў у руку. Ніканчыкаў выраўняў на 4:4.

Да канца бою засталася толькі адна мінута. І калі ўсе чакалі новага наступу стыхійнага вянгерца, савецкі шпажыст апярэдзіў яго і сам кінуўся наперад. Майстэрскае пападанне на рукавіцу Феньвесі! 5:4 — перамога і ў выніку новае званне чэмпіёна свету ў шпазе.

Новае званне, бо 30-гадовы магістр педагогікі з Мінска (заканчвае цяпер доктарскую працу) Аляксей Ніканчыкаў быў ужо чэмпіёнам свету ў шпазе ў гадах 1966 у Маскве і ў 1967 у Манрэалі. У бягучым сезоне трыумфаваў ў чэмпіянаце сацыялістычных краін у Берліне, а таксама ў найбольшым шпагавым турніры свету ў Гайдэнгайме.

Для мяне Аляксей з'яўляецца найлепшым шпажыстам свету ўсіх часоў. Тры залатыя медалі і адзін сярэбраны (1969 у Гаване, дзе ўступіў месца толькі Анджэеўскаму) у індывідуальнай канкурэнцыі, не лічачы двух залатых медаляў ў шпагавай дружыне СССР — гэта баланс цудоўны. Але таксама дасканалыя дасягненні былі і ў італьянца Эдуардо Мангіяроці (чэмпіён свету 1951, 1952 і 1954), ці калісьці ў француза Бушэ (чэмпіён Еўропы, калі яшчэ не адбываліся чэмпіянаты свету, у гадах 1927, 1931 і 1933).

Аднак ад часоў Мангіяроці (не гаворачы ўжо аб гадах, калі змагаўся Бушэ) шпагавая барацьба пайшла выразна наперад, як у тэхнічных патрабаваннях, так і ў тактычных і ў форме. І таму беларускі волат (193 см узросту), вучань трэнера Германа Бакуна, з'яўляецца для мяне недасягальным узорам шпагавага чэмпіёна над чэмпіёнамі.

*На здымку: Аляксей Ніканчыкаў з жонкай Дзіянай (таксама чэмпіёнка свету па фехтаванні) на скверы побач мінскага палаца спорту.* *Фота Э. Трыгубовіча*



## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

# ПОЛЬСКІЯ СУПЫ

Бывае і так, што ў сваіх парадах мы, можа занадта, захапляемся блюдамі, вышуканымі, выквітнымі, а забываемся пра такія звычайныя рэчы, як напрыклад, суп. Суп — гэта блюда, так сказаць, славянскае, бо чым далей мы пасоўваемся на Захад, тым менш заўважаем супоў, якія б падавалі на абед.

Мы ж не ўяўляем сабе добрага абеду без супу. А што могуць яны быць разнастайныя і не абмяжоўвацца толькі да чыстага булёну (які, як адзіны суп, найчасцей распаўсюджаны на Захадзе), гэта ведаюць усе.

Сёння мы б хацелі падаць рэцэпты на 2 тыпова польскія, чуць не гістарычныя супы: суп памідорны і журак.

*Памідорны суп* найлепшы атрымліваецца, калі мы робім навар на мясе с вялікай колькасцю валашчыны (морква, пятрушка, селер, пора), але можна зрабіць таксама навар на валашчыне і касцях. Памідорную пасту, нават найлепшую, варта хвіліну перасмажыць на патэльні з маслам. І вось калі мы ўжо дададзім да атрыманага на мясе ці касцях з валашчынай булёну перасмажаную памідорную пасту (таматны канцэнтрат), дадаем да супу абабраную цыбуліну і галінку ўкропу з насеннем. Не кіпяціць! Суп з цыбуляй і ўкропам павінен толькі настаяцца. Калі ёсць яшчэ свежыя памідоры, можна дадаць некалькі, нарэзаўшы іх на чвэрткі (але тады суп закіпяціць з памідорамі). Добра было б дадаць яшчэ нарэзанага зялёнага ўкропу. Падаюць памідорны суп звычайна з рысам ці макаронам (рыс ці макарон адварваюць асобна, каб не сапсаваць смаку супу, кладуць на кожную талерку па 2—3 лыжкі, ды заліваюць супам). На асабліва ўрачыстыя абеды раім вам падаць так званы макарон з бліноў. Для гэтага таўставатыя бліны смажым на масле, нарэзваем на палоскі шырынёю каля паўсантыметра, кладзем у глыбокую талерку, заліваем супам.

*Журак* пачынаем рабіць ад падрыхтоўкі журу. Для гэтага пару кавалкаў жытняга хлеба, крыху пшанічнай мукі і звараную бульбіну заліваем летняй вадой. Так патрымаць гэта пару дзён. Найлепшы жур, праўду кажучы, быў бы з жытняй мукі, але яе цяжка дастаць. Навар для журка найбольш адпаведны — на белай каўбасе. Сырую каўбасу заліваем вадой, дадаем цыбуліну, лаўровы лісток, некалькі зёран чорнага перцу і варым каля паўгадзіны. Дадаем жур і варым яшчэ паўгадзіны. Некаторыя любяць яшчэ забяліць журак смятанай. Але гэта не абавязкова. Важна што іншае: важна тое, што журак неабходна падаваць са свежа зваранай бульбай, палітай смальцам са скварачкамі. Такім чынам, суп гэты, здавалася б, такі працахлонны, уласна кажучы, аказаўся вельмі просты.

*Гаспадыня*





З МІНУЛАЙ ВАЙНЫ





На дворы стаяў кастрычнік 1942 года. Зямлю пакрыла бялюткая прасціна снегу. Праз лес прабіралася група людзей. Наперадзе ў кажушку ішоў селянін. Гэта быў паляўнічы з вёскі Пушча. На першы погляд ён здаваўся сухарлявым, нязграбным, але ступаў даволі лёгка і ўпэўнена. За ім, выцягнуўшыся ў доўгі ланцуг, ішлі і ехалі конна ўзброеныя людзі. Да слыху старога калі-нікалі даляталі ўрыўкі чужой мовы.

Іосіф Філідовіч мімаволі сцішыў крокі. У галаве адна за адной мроіліся трывожныя назойлівыя думкі...

Па гэтай зямлі ён хадзіў ужо шэсцьдзесят сем гадоў і нікому не зрабіў благога. Жыў дружна і памяркоўна з людзьмі. З ранніх гадоў займаўся паляваннем. Бадай, няма ў пушчы такой сцяжынкі, дзе б не прайшоў ён са сваёй неразлучнай сяброўкай — стрэльбай.

А сёння надарылася бяда. Раніцай у хату ўвалілася некалькі ўзброеных фашыстаў. Адзін з іх загаварыў на ломанай рускай мове:

— Старык, паказывайт дарогу к партызанам. Уставаць! Бістра, бістра!

Яны сцягнулі старога з печы і загадалі апранацца.

Ворагі хацелі, каб паляўнічы паказваў ім дарогу ў амаль непраходных балотах да партызанскага шпіталя і атрада імя Варашылава, які знаходзіўся ў Ліпічанскай пушчы. Філідовіч ведаў, што атрад размясціўся сярод балота на вялікім, зарослым векавым лесам востраве.

Іосіф Юр'евіч павалі апрануўся і непрыкметна мігнуў сваім, каб падаваліся ў лес.

А праз некаторы час незвычайная працэсія рушыла ў напрамку да ляснога масіву. Паляўнічы адразу ўзяў кірунак у працілеглы бок.

...Лес рабіўся ўсё гусцейшы. У іншых мясцінах прыходзілася прадзірацца праз кусты і завалы. Прамені халоднага сонца ледзь-ледзь прабіваліся скрозь векавыя шаты дрэў.

Маўклівасць парушыў нямецкі афіцэр, які неадступна ішоў ззаду.

— Калі ты прывядзеш нас у лагер, атрымаеш узнагароду і захаваеш жыццё.

Філідовіч крыва ўсміхнуўся. Ён нічога не хацеў і жадаў ворагам толькі смерці.

А вось і балота. У некаторых мясцінах немцы правальваліся па калені ў ледзяную вязкую жыжку. А стары забіраўся ўсё далей і далей. Раптоўна цішыню ляснога абшару парушыла перадсмяротна-жалобнае храпенне трох коней, якіх хутка заглытвала ненасытная багна. Карнікі зразумелі, што гэты

# ТРЫБУНА чытачоў

*З жыцця ліцэя*

## СПАРТАКІЯДА

12 кастрычніка г.г. у Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася ваенна-падрыхтоўчая спартакіяда. Прымала ў ёй удзел моладзь III б, IVa, і VIб класаў. Заняткі пачаліся ў восем гадзін раніцы і адбываліся каля ліцэя. Яны былі падзелены на тры часткі. Першая частка датычыла праверкі фізкультурнай спраўнасці моладзі, другая — ведаў па гісторыі і ваеннай падрыхтоўцы і трэцяя — па геаграфіі.

Праверкай фізкультурнай спраўнасці заняўся мгр Анатоль Скепко і мгр Мікалай Врублеўскі. Адбылося гэта ў фізкультурнай зале. На пытанні па гісторыі і ваеннай падрыхтоўцы адказвалі вучні пісьмова пад наглядам мгр Івана Пятручука і мгр Уладзіміра Рушука. На двары ля школы адбыліся заняткі па геаграфіі пад наглядам таксама нашага настаўніка мгр Аляксея Сельвясюка. На школьным панадворку прайшлі і спаборніцтвы добрага прыцэльвання пад наглядам настаўніка мгр Уладзіміра Рушука. Апрача таго, кожны вучань павінен быў прайсці прама некалькі метраў з завязанымі вачыма. Не кожнаму гэта ўдавалася, але многія выконвалі добра. Затым камісія падлічыла пункты кожнага вучня. З кожнага класа выбралі па шэсць найлепшых. Неўзабаве адбудуцца міжкласныя спаборніцтвы, а потым павятовыя, дзе моладзь будзе абараняць гонар нашага ліцэя.

## ВАРШАЎСКАЯ ФІЛАРМОНІЯ

14 кастрычніка, так як і кожны год, у Гайнаўскі беларускі ліцэй прыязджала Варшаўская філармонія. У адзінаццаць гадзін раніцы моладзь і настаўнікі ліцэя сабраліся ў калідоры школы. Артысты выконвалі оперу «Кракавяцы». Усім яна вельмі спадабалася. Вялікія бравы раздаваліся па цэлым калідоры. Пасля канцэрта кожны з вясёлай усмешкай пайшоў у свой клас.

*Люба Ярашэвіч*
*беларускі ліцэй у Гайнаўцы*

*Дубіцкія весткі*

## КЛОПАТЫ АБ ЗДАРОЎІ ЧАЛАВЕКА

У Дубічы Царкоўныя прыехаў спецыяльны лекарскі самаход — рэнтген. Праводзіліся прасвятленні ўсяго насельніцтва грамады (ад 14-ці год) з мэтай выкрывання сухотаў. Працавалі пры гэтым лекары з Беластока. Праз некалькі месяцаў паўторна прыедуць на праверку.

## НА МЕСЦЫ

У Дубічах Царкоўных нядаўна быў арганізаваны (на складзе мясцовага сельгасгуртка) скуп бульбы. Прымалася закантрактаваная бульба ад сялян з цэлай грамады. Трэба адзначыць, што ў апошні час у грамадзе сяляне значна больш пачалі прадаваць закантрактаванай бульбы дзяржаве.

## ВАПНАВАННЕ

У грамадзе Дубічы Царкоўныя ідуць інтэнсіўныя работы пры рассяванні па полі вапна. Трактарныя распылячы даязджаюць з гэтым мінеральным рэчывам усюды, па ўсіх кутках далёка раскінутых сялянскіх калёній. Вапнаванне глебы таксама патрэбна і, несумненна, дасць свае вынікі.

*М. Панфілюк*

*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 17 год. Жыву я ў невялікім мястэчку на Беласточчыне. Мая сястра выйшла нядаўна замуж на вёску пад Беластокам. Вось я туды часта і заязджаю. Апошнім разам я паехала да сястры ў нядзелю. Вечарам адбывалася забава. Пайшла туды і я. Па нейкім часе падышоў да мяне прыгожы малады хлапец і папрасіў гуляць. Ад гэтага танца і пачалося. Танцавалі мы з ім цэлы вечар, а потым ён адвёў мяне дамоў. Нібы ўсё добра, але вось што здарылася. Калі мы бліжэй пазнаёміліся, хлопец гэты сказаў мне, што завецца Віця. Я паверыла і так да яго звярталася. Калі Віця адводзіў мяне дамоў, нас мінула нейкая пара — хлопец і дзяўчына. Гэты хлопец звярнуўся да майго «Віці», называючы яго Янкам.




«Віця» штосьці хутка адказаў яму на яго пытанне і пачаў хутка гаварыць мне аб чым іншым, відаць таму, каб я не здагадалася, што ён мяне ашукаў. Я зрабіла выгляд, як быццам бы нічога не зразумела, і мы пачалі далей гаварыць. «Віця» запрасіў мяне на наступную забаву. Я прыняла запрашэнне. Сказаў мне, што я вельмі яму спадабалася і ён жадае, каб абавязкова я прыехала. Не магу аднак забыць аб гэтым, не ведаю, чаму «Віця» салгаў. А мо ён таксама ілгаў, што я яму спадабалася? Парай, што мне зрабіць, ці забыць аб гэтым і надалей звяртацца да яго «Віця», ці ўвогуле не паехаць на забаву. Найгорш тое, што ён мне спадабаўся і вельмі хацела б надалей з ім сустракацца. Парай, Сэрцайка.

*Аня з Беласточчыны*

*Аня!* Не варта пераймацца гэтай справай, бо яна ў сапраўднасці не сведчыць аб нічым дрэнным. Маладыя дзяўчаты, а таксама і хлопцы, вельмі любяць змяняць свае імёны проста так, без прычыны, для забавы. Таму не варта гневацца на «Віцю», і, калі ён табе падабаецца, дык паедзь на вызначаную «Віцем» сустрэчу (забаву). Пры сустрэчы пастарайся не забыцца і называць «Віцю» — Янкам. Толькі не прасі «Віці» выяснення, проста называй яго Янкам і ўсё. Думаю, што «Віця», знаходзячыся ў такім становішчы, сам сабе вытлумачыць свой пастулак. А калі б «Віця» так не паступіў, дык таксама няма патрэбы за гэта гневацца.

*Сэрцайка*




## НЕ ХАПАЕ КЛУБА

Вёска Крывец знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце. Гэта сапраўды вялікая вёска, бо налічвае каля 100 гаспадароў, усе маюць прыгожыя вялікія дамы, а таксама гаспадарскія будынкі. У вёсцы пануе лад і чысціня. Даўным-даўно правялі тут электрычнае святло. У вёсцы шмат моладзі. Такая вялікая і прыгожая вёска, а не хапае клуба. Амаль кожны вечар моладзь збіраецца на вуліцы на вечарынкі, бо дзе ж інакш можна правесці вольны час?

У Крывец кожны тыдзень прыязджае кіно з Нарвы і тут ізноў праблема: дзе з ім дзецца? Дзякуючы добразычліваму кіраўніку школы, на высвятленне фільма кожны чацвер знаходзіцца месца. Найбольшы аднак клопат тады, калі арганізуюць забавы. Летам то няма бяды, а зімою? Ну, дык ці не патрэбны клуб у вёсцы Крывец?

*Вера Ахрымюк*

## ПРА ЗАГАД ПРЭЗІДЫУМА ВРН

У сувязі са слабейшым ураджаем збожжа ў гэтым годзе Прэзідыум ВРН у Беластоку загадаў усім старшыням прэзідыумаў павятовых радаў, каб асаблівую ўвагу звярнулі на скупку збожжа. Трэба ўсё рабіць, каб забяспечыць выкананне плана пастаўкі збожжа дзяржаве. Вопыт з месяца верасня г.г. паказвае, што продаж збожжа дзяржаве ў параўнанні з мінулым годам паменшыўся амаль у 3 разы. (вр)

## У НАШЫХ ГУРТКАХ



*Тэрцэт з вёскі Семяноўкі, Гайнаўскага павета: Марыя Вілюк, Аляксандра Аніскевіч і Яўгенія Бірыцкая.* *Фота: В. Бура*

## ВЕСТКІ СА ШКОЛЫ Ў КРУГЛЫМ ЛЯСКУ

У пачатковай школе ў Круглым Ляску (Беластоцкі павет) працуюць настаўнікі і вучацца 82 вучні. Добра працуюць тут такія школьныя арганізацыі, як Гурток сяброў Савецкага Саюза, СКО і ЛОП.

Вучні з Круглага Ляска перапісваюцца з сябрамі з СССР, абменьваюцца паштоўкамі і паштовымі маркамі. Пішуць яны аб школе, аб сябрах, абменьваюцца сваімі фотаздымкамі і г.д. Шырокую карэспандэнцыю з замежнымі сябрамі і сяброўкамі вядуць Лідзія Полех з VII класа, Яўгень Міруць з VIII класа, Ніна Васько з VI класа і і іншыя. Вучні гэтыя робяць цікавыя насценгазеты з жыцця Савецкага Саюза. Працай гуртка сяброў СССР кіруе настаўнік Мікалай Ціванюк.

Многія вучні маюць ашчадныя кніжкі СКО. Складаюць яны грошы, якія найчасцей самі зарабілі ці за сабраныя ягады і грыбы, ці пры пасадцы лесу (пасадзілі яны 2 га лесу ў надлясніцтве Герасімава), ці пры ачыстцы супрацьпажарных межаў пры дарозе Сушча—Плянты.

Некаторыя вучні сабралі больш тысячы злотых. Найбольшыя ўклады маюць Міраслаў Андрушкевіч (VI кл), Аліна Нос (V кл), Людміла Грыка (VI клас). У мінулым школьным годзе ўсе яны былі ўзнагароджаны СОП-ам і ПКО. Прапагандыстам СКО з'яўляецца кіраўнік школы Уладзімір Янель. Добра дзейнічае ў школе Ліга аховы прыроды (ЛОП). Школьнікі дапамагаюць дзікім звяркам перажываць суровыя зімы, робяць кармушкі і выносяць корм на лясныя палянкі.

*Янка Цялушэцкі*

«ціхі» беларус вядзе іх зусім не туды, куды трэба.

У марознай цішыні гулкім рэхам суха трэснулі стрэлы. Стары пахіснуўся і, смяротна паранены, упаў.

З вялікай цяжкасцю, губляючы людзей, коней, зброю, выбралася напалавіну парадзелая група акупантаў з гэтага страшнага месца. Спачатку яны ўварваліся ў хату Іосіфа Філідовіча, каб расквітацца з яго сям'ёй, але там нікога не было.

Цела старога знайшлі толькі 26 сакавіка 1943 года. З таго часу ў народзе паляўнічага празвалі «Пушчанскім Сусаніным».

Піянеры, якія ў час летніх канікулаў ходзяць сцежкамі бацькоўскай славы, часта слухаюць расказы старэйшых пра подзвіг паляўнічага, які цаной свайго жыцця выратаваў дзесяткі людзей.

Шануюць памяць пра свайго дзеда і ўнукі. Адзін з іх — Лявон Філідовіч цяпер сакратар парткома калгаса «Зара» Дзятлаўскага раёна. Анатоль і Фёдар Філідовічы працуюць у сельгасарцелі «Дружба» гэтага ж раёна.

*В. Палішэвіч*

## ЛЯЎКОЎСКІЯ ГАРЦЭРЫ ЎЗНАГАРОДЖАНЫ ДЫПЛОМАМІ

За актыўны ўдзел у выкананні задач нелагернага лета ляўкоўскія застэмпы «Панцэрныя» і «Белы Кел» узнагароджаны дыпломамі, а таксама ганаровым званнем «Застэмпаў гвардзейцаў». Такія ўзнагароды Павятовы штаб нелагернага лета ў Гайнаўцы даслаў толькі найлепшым застэмпам у павеце. Да такіх належаць перш за ўсё застэмпы з Лянева і Дубіч.

*Янка Цялушэцкі*



*Боцькі, Бельскі павет.* *Фота: Цакф — Сянько*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

### КЛЯШЧЭЛІ

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 10—11. „Pali się moja panno" (czeski), 12—13. „Polowanie na muchy" (polski), 14—15.

### ДУБІНЫ

„Jezioro starej sowy" (NRD), „Ruchome piaski" (polski), 14—15.

### НАРАЎКА

„Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), „Dom na rozstajach" (radziecki), 11—15.

### НАРВА

„Śmierć Indianina" (rumuński), „Naczelnik Czukotki" (radz.), 11—15.

### ЧЫЖЫ

„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 11—15.

### ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

„Topkapi" (USA), „Więzy" (węgierski), 11—15.

### АРЭШКАВА

„Grawitacja" (jugosł.), „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 14—15.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

### ОРЛЯ

„Dziewczyna na rozdrożu" (bułgarski), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 11—15.

### РАЙСК

„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Sayera" (rumuński), 11—15.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

### МІХАЛОВА

„Grymasy" (węgierski), 10—11. „Dywersanci" (jugosł.), 12—13. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 14—15.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

### КРЫНКІ

„Pingwin" (polski), 10—11. „Daleko od słońca" (jugosł.), 12—13. „Marysia i Napoleon" (polski), 14—15.

### ШУДЗЯЛАВА

„Dzika Elżbieta" (czeski), „Nowy" (polski), 11—15.

### ЯНАЎ

„Ostatni termin" (USA), 11—15.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

### НУРЭЦ

„Trzynastego nocą" (bułg.), 10—11. „Kryptonim Nektar" (polski) 12—13. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 14—15.

### МЕЛЬНІК

„Bicz Boży" (polski), „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 11—15.

### МІЛЕЙЧЫЦЫ

„Dialog" (węgierski), 10—11. „Che/Opowieść o Gouvarze" (włoski), 12—13. „Bumerang" (polski), 14—15.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

### СУХАВОЛЯ

„Testament gangstera" (franc.), „Pamiętnik pani doktór" (franc.), 11—15.

### НОВЫ ДВОР

„Nigdy nie wrócę" (radz.), „Tajemnica zielonego boru" (radz.), 14—15.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7107 W-4

*Савецкі гумар*

## А ВЫ ЧЫТАЛІ КАФКУ?

Прыходжу я, як звычайна, на работу. Спыняе мяне калега Барабанаў.

— Учора, — гаворыць, — перачытаў Кафку. Чыталі Кафку, калега?

— Не, — адказваю, — неяк не давялося.

— Не чыталі Кафку?

— Прызнацца, не чытаў.

Увесь дзень Барабанаў касавурыўся на мяне, а ў час абедзеннага перапынку раптам падыходзіць да мяне лабарантка Нінуля і пытаецца:

— Гэта праўда, што вы не чыталі Кафку?

— Не чытаў, — гавару.

— Усё ясна, — сказала Нінуля і пайшла ў буфет з калегам Барабанавым.

Па дарозе дамоў я сустрэў геолага Бузіна. Ён быў, як заўсёды, з непрыгожай дзяўчынай.

— У Ханты-Мансійску свабодна прадаецца Кафка! — здалёк крыкнуў ён.

— Цудоўна, — сказаў я і, не азіраючыся, паспяшаўся далей. Як толькі я адчыніў дзверы французскім ключом, да мяне падбег сусед-дашкольнік Вова і абняў мяне за нагу.

— А мы з бабуляй Кафку чыталі, — сказаў ён.

Я закрычаў і кінуўся ад яго. Але Вова моцна трымаў мяне за нагу.

— Табе падабалася? — спытаў я.

— Больш ці менш, — адказаў Вова.

— Ты штосьці блытаеш, стары.

Тады Вова прынёс вялікую пашарпаную кнігу і прачытаў:

— Руфкія народныя кафкі.

— Ты разумны хлопчык, — сказаў я яму, — толькі крыху шапялявы. Падару я табе ружжо.

Так я і зрабіў.

*Сяргей Даўлатаў*



*— І так, праз дванаццаць гадзін на гэтым жа месцы.*

### АДПОМСЦІЎ

Аднойчы пасля паказу вельмі дрэннай п'есы Аляксандр Дзюма сказаў ее аўтару, што бачыў чалавека, які заснуў у першай дзеі.

На другі дзень ішла п'еса Дзюма. «Пакрыўджаны» аўтар выраш[ы]ў адпомсціць славутаму пісьменніку:

— Вы ведаеце, я таксама бачыў чалавека, які спаў, — схлусіў ён.

— Дарагі мой, — адказаў Дзюма, — я таксама яго заўважыў. Гэта той самы, што заснуў учора. Ён яшчэ не прачнуўся.



*З рысункаў савецкіх гумарыстаў.*




### КАНТОРА

У адвакацкую кантору «Крунэль, Крунэль, Крунэль і Крунэль» звоніць кліент:

— Гэта кантора «Крунэль, Крунэль, Крунэль і Крунэль»?.

— Зусім правільна, сэр.

— Калі ласка, паклічце містэра Крунэля.

— Ён яшчэ не прыйшоў.

— Тады, калі ласка, містэра Крунэля.

— На жаль, яго таксама няма, сэр.

— А Крунэль?

— Ён у водпуску.

— Тады містэра Крунэля, калі ласка.

— Я ля тэлефона.

### ГАВАРЫ

Жан зайшоў у госці да свайго сябра дзяцінства, які толькі што жаніўся на дачцы багатага крамніка. Убачыўшы яго жонку, Жан прашаптаў:

— Як ты мог жаніцца на такім страшыдле? Яна ж касавокая, кульгавая, заікаецца...

— Можаш гаварыць голасна, яна не чуе.



*Урач: — Ваша сэрца мне не падабаецца — у вас паскораны пульс.*

### Талаваломка



Якім з гэтых чатырох кавалкаў можна залатаць дзірку ў разбітым збане?

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ПАНСКАЯ ЕЖА

Адзін пан любіў такую ежу, каб доўга можна было яе жаваць. Што не звараць, пан адразу праглыне і лае кухара. Вось ён і прыдумаў: узяў аднойчы ў пастуха Макаркі лапаць, намачыў яго, засмажыў і падаў пану. Жаваў тую страву пан аж да абеда.

— Ану, скажы як гэту нову ежу называюць? Яна мне спадабалася.

— Макаркус лапціус, пане!

— Дык вары гэты лапціус на вечар, паны з'едуцца.

— Мне не цяжка зварыць, а дзе лапцяў столькі ўзяць, — адказаў кухар.



### БЕСКАРЫСЛІВАСЦЬ

— Ты ведаеш, Марцін перад смерцю завяшчаў усю сваю маёмасць дзіцячаму прытулку.

— Якая бескарыслівасць! І што ж ён ім пакінуў?

— Пяцёра дзяцей!

### ПЕРАКАНАЎ

У даждлівы асенні вечар Андэрсан пастукаў у дзверы Юхансана.

— Ты дома, Юхансан?

— Не, — санліва адказаў гаспадар, — мяне няма.

— Дык жа твае галёшы стаяць за дзвярыма, — сказаў Андэрсан.

— У мяне дзве пары галёшаў!

— Ну, калі так... — прамармытаў Андэрсан і пайшоў дамоў.



*Сустрэча на аднолькавым узроўні.*

### ВЕТЛІВЫ

— Наш Вася купіў кнігу «Будзьце ветлівы» і дакладна яе вывучае. Ужо прыкметны некаторыя вынікі. Учора ў аўтобусе жанчына, якая стаяла побач з ім, упусціла на падлогу пальчатку, і Вася...

— Падняў?

— Не зусім. Ён падсунуў пальчатку нагой, каб жанчыне было зручней падняць яе.



*— Ну, хто зараз скажа, што наш век — не век хіміі?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Лідзіі Аляксеюк з Апакі Вялікай, чытачкі з Козлікаў, Галіны Бурылы з Грыгароўцаў, Любы з Сакоў, Алі Бандарук, Зіны Бандарук і Лёлі Кулакоўскай з вёскі Астравок, Ані, Гені, Іры, Марысі, Валі, Люды, Ніны, Тамары, Олі, Зіны — з Бельскага павета, і моладзі з вёскі Баброўкі змяшчаем песню:

## „KALINKA"

Kalinka, kalinka, kalinka maja,
Sadu jagoda kalinka, kalinka maja.
Roztańczona i niesforna, wesoła niby wiatr,
Zapomniana lecz zadziorna ta sama co sprzed lat

Nagle do mnie wróciła,
Krąży przy mnie jak cień.
Nie odstępuje ni na chwilę,
Nocą zakrada w sen.
Ona jest wszędzie, nawet w ciszy
Choć krew jest moja, jej jest rytm,
Ona me pocałunki liczy,
O których dotąd nie wiedział nikt.

Kalinka, kalinka, kalinka to sny,
Kalinka, kalinka, kalinka to łzy,
Kalinka, kalinka, kalinka to pech,
Kalinka, kalinka, kalinka to ech!
Skąd się wzięłaś tu przy mnie,
Odejdź sobie do innej,
To przecież tak nie może dłużej trwać.
To stało się tak nagle, jak staje się dzień,
Powiedział, że kocha, że będzie jak cień.
Całował, ach całował, dał potem jakiś kwiat
I zagwizdał mi piosenkę, nasz sygnał, nasz znak.

Wtedy do mnie wróciła,
Krąży przy mnie jak cień.
Nie odstępuje ni na chwilę,
Nocą zakrada w sen.
Ona jest wszędzie, nawet w ciszy,
Choć krew jest moja, jej jest rytm.
Ona me pocałunki liczy,
O których dotąd nie wiedział nikt.

## ◆ БІТЫ ПЕВЕНЬ ◆

### БАЙКА

Якісьці Певень-гарлапан
Ускочыў злёту на паркан,
Залопаў крыллямі і закрычаў што было духу:
— Ку-ка-рэ-ку-у!
Суседа задзяўбу! Суседа праглыну, як муху!
Сатру яго ў муку!
Не астанецца ад яго і следу...
— Ну-ну! — паддаў імпэту
Крыкуну Індык, —
Чуб надзяры суседу,
А то з цябе смяяцца ён прывык...
Давай — давай! Смялей, мой дружа!
А перамога будзе верная твая:
Сусед слабы і трус, а ты адважны, дужы!
Прытым, з табой маральна я...
Адчуўшы збоку яўную падтрымку,
Той Певень не вагаўся ні хвілінкі —
Рвануўся на суседні двор
І бойку завязаў знянацку...
Але... там жыў таксама Пеўнік хвацкі —
«Агрэсару» ён даў такі адпор,
Што той застаўся без хваста, без шпор,
Да седала свайго ледзь-ледзь даклыпаў...
Дзе ж быў Індык?
Вачыма толькі лыпаў...

Так іншы узнімае крык,
У бойку лезе, на падмогу спадзяецца...
Ды без хваста сам застаецца.

*Эдуард Валасевіч*



### ЗАБОЙСТВА ПАСЛЯ РАБОТЫ

Злачынны свет Бразіліі ў паніцы. Выкрадальнікаў аўтамашын і контрабандыстаў, кішэнных зладзеяў і грабежнікаў банкаў пачалі знішчаць у арганізаваным парадку. На рахунку тых, хто праводзіць гэтыя «прафілактычныя мерапрыемствы» ў Рыо-дэ-Жанейра, звыш дзвюхсот ахвяр.

Крыху пазней другая каманда «забойцаў з мэтай прафілактыкі», якую ўзначаліў маёр Палакіас, з'явілася ў шасцімільённым Сан-Паулу. Каманда складаецца з дваццаці двух чалавек: паліцэйскія, ваенныя і цывільныя асобы. За тры месяцы яны знішчылі да 50 чалавек, аднак злачыннасць не скарацілася.

Улады глядзяць на дзенні забойцаў скрозь пальцы. Больш таго, яны лічаць, што гэтыя каманды робяць карысную справу. Палакіас адчувае сябе так упэўнена, што згадзіўся даць інтэрв'ю адной з газет. Ён заявіў, што ганяецца за злачынцамі ў суботу і нядзелю і што для яго гэта «не больш як разумовая гігіена».

### АЛІМПІЯДА ВУСТРЫЦ

Відаць, нямногія ведаюць, што алімпійскія гульні 1968 года адбыліся не толькі ў Мехіка. У горадзе Гэлвей у Ірландыі была праведзена першая Алімпіяда па... раскрыццю вустрыц. Пераможцам стаў афіцыянт таверны з горада Гэлвей — Джоні Каміліс, які раскрыў з дапамогай нажа 50 вустрыц за тры мінуты 24,9 секунды. Другое месца заняў француз Альберт Дзюрэй, работнік рыбнага рынку ў Ліёне.




*Усе хочуць пакінуць след у жыцці. Усе, акрамя зайца.*